ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ

№ 4 (112) 2015

# аБАЖУР

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS









# 16

**верасня**
**1995 года**
**было зарэгістраванае**
**грамадскае аб'яднанне**

# «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»




Асацыяцыя журналістаў беларуская





АБАЖУР
ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS

ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

***Выдавец:*** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
***Перыядычнасць:*** 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.
№ 4 (112) 2015 г.

***Галоўны рэдактар***
Уладзімір Барысавіч Дзюба

***Фота на вокладках —***
Сяргей Грыц (першая)
Валянціна Зянкова (апошняя)

Выданне зарэгістравана
ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь,
рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009 г.

Падпісана да друку 02.09.2015 г.
Дата выхаду 15.09.2015 г.
Фармат 60x84/8.
Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк.
Наклад 500 асобнікаў.
Заказ № _________
Распаўсюджваецца бясплатна.

***Адрас рэдакцыі:***
***220030, г. Мінск,***
***вул. Камсамольская, 7–32.***
***Тэл./факс: (017) 203-63-66,***
***(029) 126-70-98***
***E-mail: abajur@baj.by,***
***baj@baj.by***
***Сайт: www.baj.by***

Друкарня ТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0552782 ад 01.10.2010 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10, 203-53-41,
(029) 623-74-10
medisont@gmail.com
www.medisont.com



# БАЖ — гэта салідарнасць

Анджэй ПАЧОБУТ

Да Беларускай асацыяцыі журналістаў я далучыўся ад самага пачатку сваёй журналісцкай дзейнасці. Стаў у 2002 годзе працаваць у тыднёвіку Саюза палякаў «Głos znad Niemna» — і тады ж уступіў у БАЖ. Чаму?

Аляксандр Лукашэнка, яшчэ зусім не сівы, вёў якраз інтэнсіўнае змаганне з незалежнай журналістыкай. Беларускі прэзідэнт дастаткова хутка манапалізаваў палітычную сцэну, і цяпер прыйшла чарга «ўпарадкаваць» СМІ. Абшар свабоды слова, а значыць, і магчымасці працы журналіста, істотна звужаўся. «Нячэсныя» журналісты і СМІ адразаліся ад інфармацыі, ствараліся перашкоды ў распаўсюдзе незалежных выданняў… І гэта быў толькі пачатак. Неўзабаве барацьба ўлады з медыямі прыняла яшчэ больш жорсткія формы. У Гродне гэта вылілася ў гучную крымінальную справу супраць журналістаў незалежнай газеты «Пагоня» Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі, якіх абвінавацілі ў паклёпе на прэзідэнта.

БАЖ, у адрозненне ад канкурэнцыйнага Беларускага Саюза Журналістаў, мела на гэты конт выразную пазіцыю. I тое было для мяне вырашальна. Акрамя таго, сябрамі БАЖ былі знакавыя постаці беларускай журналістыкі: Жанна Літвіна, Мікола Маркевіч, Аляксандр Старыкевіч, Павел Шарамет, Ірына Халіп... Сяброўства ў БАЖ мела бонус у выглядзе адчування далучэння да гэтага элітарнага клуба. Таму я ўвайшоў у БАЖ і вось ужо 13 гадоў ганаруся ўдзелам у працы гэтай арганізацыі.

***Калі сфармуляваць сутнасць БАЖ адным словам, то, я мяркую, гэтым словам будзе САЛІДАРНАСЦЬ.***

На жаль, апошнія 20 гадоў мы назіраем павольнае знішчэнне журналістыкі. Улады спрабавалі і спрабуюць пераўтварыць журналістаў у банальную абслугу, якая мае дагаджаць і пакорліва выконваць загады чыноўнікаў, апрацоўваючы ў адпаведным ключы «народныя масы».

БАЖ спрабавала і спрабуе гэтаму супрацьстаяць.

Калі азірнуцца назад, разумееш: тэндэнцыя стаўлення да медыяў у нашай краіне сумная. Зачыненыя праграмы, знішчаныя выданні, паламаныя лёсы, і ўсё больш калегаў па-за прафесіяй... Песімісты кажуць: супраць лома няма прыёму. Аднак увесь перыяд свайго існавання БАЖ была і застаецца той пляцоўкай, куды звяртаюцца журналісты, каб займацца журналістыкай, тым месцам, дзе ў выпадку праблемаў табе будуць спрабаваць дапамагчы, будуць за цябе змагацца.

Памятаю 2002 год і пікеты гарадзенскіх журналістаў у абарону Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі з «Пагоні», затрыманні і арышты... Памятаю прыезд усяго кіраўніцтва БАЖ на чале з Жаннай Літвіной у Гродна, каб падтрымаць калег, якія патрапілі пад арышты за ўдзел у акцыі салідарнасці. Памятаю, як дыскутавалі, што за мэта ў дадзенага працэсу і пакарання журналістаў. Няўжо, маўляў, Аляксандр Лукашэнка хоча, каб усе газеты ператварыліся ў клоны вядомай сваім сервілізмам «Советской Белоруссии»?

Праз 13 гадоў мы бачым, што, дзякуй Богу, пакуль такога не адбылося. Але калі параўнаць сітуацыю ў беларускіх СМІ і ўмовы працы журналістаў у 2002 годзе з сённяшнімі, то бачна: у галіне ператварэння журналістаў у паслухмяных клонаў улада мае выразныя поспехі. Канчатковай уніфікацыі, дзякуй Богу, не атрымалася. I ў гэтым велізарная заслуга таксама і БАЖ. Прычым справа не толькі і не столькі ў супрацьстаянні ўладзе ці змаганні. Справа ў самой арганізацыйнай наяўнасці альтэрнатывы.

БАЖ, акрамя журналісцкай салідарнасці, — гэта яшчэ і магчымасць падвысіць свой прафесійны ўзровень, атрымаць кваліфікаваную юрыдычную параду, гэта і кантакты з калегамі з іншых краін, што часам дазваляе зірнуць на нашую сітуацыю з іншай перспектывы. БАЖ, а дакладней, яе Камісія па этыцы, з’яўляецца таксама трацейскім суддзёй у выпадках канфліктаў.

Да ўсяго БАЖ — гэта і магчымасць звычайных сустрэч і размоваў з калегамі. Таму, нягледзячы на песімізм, на тое, што гэтае дваццацігоддзе не было лёгкім ні для нашай краіны, ні для нашай арганізацыі, ні для нашай прафесіі, я перакананы, што будучыня — за незалежнай журналістыкай. I як бы нехта ні спрабаваў адкруціць назад, замарозіць навакольны свет, спыніць час, пасадзіць вольнае слова на ланцуг, ніякай перспектывы гэта не мае.

Веру: калі праз наступныя 20 гадоў будзем падводзіць вынікі, то сцвярджэнне пра вольнасць слова не будзе выглядаць летуценнем. Яно будзе самым звычайным фактам нашае супольнае гісторыі.

# Журналісты незалежнасьці

**Дык што, вы кажаце, дваццаць гадоў БАЖ?**
**О, дваццаць гадоў — самы сок маладосьці.**
**А значыць, у беларускай незалежнай журналістыкі ўсё яшчэ наперадзе.**

**Сьпярша, падчас перабудовы, у нас зьявілася незалежная беларуская прэса.**
**Папрацавала незалежная прэса — і сасьпела дзяржаўная незалежнасьць. І гэта лягічна.**



*Павел СЕВЯРЫНЕЦ, спэцыяльна для «А»*

А сам я нарадзіўся ў свайго таты разам з журналістыкай. Якраз у 1976-м, калі я зьявіўся на сьвет, мой бацька, Канстанцін Паўлавіч, дырэктар васьмігодкі ў вёсцы Пагост пад Воршай, пачаў друкавацца ў аршанскай газэце «Ленінскі прызыў». У апошнія гады Саюзу тата працаваў рэдактарам завадзкой шматтыражкі, а падчас перабудовы ды незалежнасьці — у БелТА ды на Беларускім радыё. Памятаю аграмадны тэлетайп у карпункце насупраць сёньняшняй віцебскай Пакроўскай царквы й зачыненыя дзьверы кухні, калі ў таты быў этэр.

У 1986-м кампартыя БССР пад кіраўніцтвам Мікалая Сьлюнькова ўводзіла на прадпрыемствах «трохзьменку». Тата, карэспандэнт БелТА, разам з журналістам «Советской Белоруссии» Сяргеем Буткевічам выступіў у газэце з крытыкай. На першай паласе — першы сакратар Сьлюнькоў за «трэцюю зьмену», а на трэцяй — бац, два дзяржаўныя журналісты супраць. Першага намесьніка рэдактара «Саўбелкі» Іосіфа Паўлавіча Сярэдзіча выклікалі ў ЦК КПБ — запатрабавалі неадкладна «разабрацца й прыняць меры».

Сярэдзіч журналістаў адстаяў і «прыняў меры» — выплаціў абодвум пратэстоўцам падвышаны ганарар.

Потым за інтэрвію зь Сяргеем Навумчыкам у «Беларускай Маладзёжнай» тату зачыняць доступ да жывога этэру радыё… Потым будуць матэрыялы пра Лявона Баршчэўскага, Сокалава-Воюша, Уладзімера Арлова…

19 жніўня 1991-га тата адмовіўся працаваць на ГКЧП. Ну дзе тут не захочаш стаць незалежным журналістам?

— Хочаш? Пішы, — сказаў тата мне, першакурсьніку геалёгіі.

І вось восеньню 1994-га, калі Аляксандар Рыгоравіч рабіў яшчэ нясьмелыя крокі на сваім цярністым шляху да абсалютнай улады, «Знамя юности» апублікавала маю першую нататку пра аднакурсьніка-геоляга, парафіяніна знакамітага ксяндза Ўладыслава Чарняўскага зь Вішнева Валожынскага раёну — Мар’яна Бурачэўскага. Па-беларуску.

Пісаў я ў «Знамёнцы» пра мыйшчыкаў машынаў, студэнцкія інтэрнаты, пра прапаведнікаў з праспэкту — аж пакуль улетку 1995-га, пасьля сумнавядомага «рэфэрэндуму», з майго матэрыялу пра практыку ў тым самым Валожынскім раёне новапрызначаны рэдактар Гукоўскі ня выразаў згадку пра бел-чырвона-белы сьцяг.

І вырашыў я здаць пасьведчаньне, а на апошні ганарар за вылегчаны артыкул пайшоў і купіў бел-чырвона-белы сьцяг у штаб-кватэры Фронту.

Так незалежная журналістыка прывяла мяне ў рух, дзе праз паўтара гады мы, група студэнтаў, і стварылі Малады Фронт.

І менавіта незалежныя журналісты — такія як Тацяна Мельнічук і Юрась Карманаў, Зьміцер Бандарэнка й Мікалай Халезін, Генадзь Барбарыч і Генадзь Кесьнер, Павал Селін і Аляксандар Ступнікаў, Сяргей Пульша й Віталь Гарбузаў, Марат Гаравы й Ягор Маёрчык, Уладзімер Глод і Зьміцер Дрыгайла, Ганна Соўсь і Іна Студзінская, Алег Улевіч і Вераніка Трызна, Вольга Караткевіч і сьветлай памяці Альгерд Невяроўскі — вывелі Малады Фронт на шматтысячныя аўдыторыі й паспрыялі, каб ён стаў масавым рухам.

Згадваеце? Газэты «Свабода» й «Имя», «БДГ», незалежныя ОРТ ды НТВ і, вядома, «Беларуская Маладзёжная»…

Памятаю, як у 1990-х карэспандэнтка «Радыё Свабода» Любоў Лунёва ганяла міліцыянтаў, што

зьбіраліся вінціць маладафронтаўцаў, і прабівалася на закрытыя суды ды нават у ізалятары.

Як пасьля штурму курапацкіх намётаў у 2001-м мы ўсю ноч ставілі крыжы, а ўжо а пятай ранку ў нацыянальны нэкропаль прыехалі карэспандэнты акрэдытаваных у Беларусі тэлеканалаў і групаваліся каля катлу са зваранай грэчкай з тушанінай — а нам у чаканьні амапаўскай атакі ежа ў горла ня лезла.

Як Павал Шарамет са Зьмітром Завадзкім здымалі снайпэрскі конкурс імя Лі Гарві Освальда, Яўген Скочка пазіраваў з карабінам, а потым, пасьля сюжэту ў праграме «Время» спэцназ браў штурмам штаб-кватэру ОРТ, каб знайсьці відэакасэту з запісам — матэрыял у крымінальнай справе.

Як незалежныя журналісткі Ірына Халіп, Тацяна Сьнітко ды Вольга Тарасевіч разам з маладафронтаўкамі змагаліся за званьне «Міс Малады Фронт».

Як цягалі мы па начох па менскіх дахах апэратараў ды фатакораў на здымкі акцыяў «Горад наш!» зь бел-чырвона-белымі сьцягамі.

Як Жэня Скочка з рэдакцыі «Беларускай Маладзёжнай» на рагу Раманаўскай Слабады і Нямігі пёр скрыню піратэхнікі на легендарны «экшн» у дзень сьвятога Валянціна.

Як даводзілася адседжваць суткі ў вашывай камэры на Акрэсьціна пасьля «Дня незалежнай прэсы» — жывога ланцуга з газэтамі ў руках на Кастрычніцкай плошчы.

Як на «хімію» з ранішнім дызэлем прыяжджаў да мяне на раскрыжоўку лесу ў Алёшчы «свабодавец» Вінцэсь Мудроў з пакункам харчоў і дыктафонам…

Урэшце, колькі іх было, маладафронтаўцаў, што самі сталі незалежнымі журналістамі, — Андрэй Скурко, Зьміцер Панкавец, Юля Дарашкевіч, Сяргей Гудзілін з «Нашай Нівы», Аляксей Шыдлоўскі з «Нашай Свабоды», Вольга Анцыповіч з «Камсамолкі», Воля Класкоўская з «Народнай Волі», Віталь Зыблюк з «Эўрарадыё», Павал Мажэйка, Зьміцер Гурневіч, Маша Савушкіна, Хрысьціна Марчук, Валер Мацкевіч, Алесь Кіркевіч, Воля Данішэвіч зь «Белсату», Франак Вячорка з «Радыё Свабода», Алёна Шарамет-Андрэева з «TUT.BY», Барыс Гарэцкі, сёньняшні сакратар БАЖу, Пятро Варахобін зь «Юністар», Яўген Скрабец і Аляксей Трубкін з «Рацыі», Аляксей Шэін зь «БелаПАНу»…

Менавіта незалежная журналістыка падштурхнула мяне (і нават скажу больш — патрэсла за каўнер), каб напісаць абедзьве кнігі падчас «хімічных» адседак у 2005–2007 ды 2010–2013 гадах. Наведваючы мяне на пасяленьні ў полацкіх лясох, у Малым Сітне, рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Дынько настойліва параіў: «Павал, пішыце. Не аднеквайцеся, пішыце штотыдня, будзем друкаваць». Так у верасьні 2005-га пайшлі капэрты ў рэдакцыю НН, каб урэшце скласьці кнігу «Лісты зь лесу». У спэцкамэндатуры ў Купліне ў 2011-м гісторыя паўтарылася, хіба што часу на ўгаворы спадар Андрэй затраціў менш: я ўжо пачаў здагадвацца, што такая публіцыстыка ёсьць неад'емнай часткай выпрабаваньня й пакліканьня. У 2014-м 82 новых эсэ склаліся ў чарговую кнігу «Беларуская глыбіня».

Да таго ж сябры з БАЖ прыяжджалі ў спэцкамэндатуру ўражальнай дэлегацыяй на чале з самой Жаннай Ліцьвіной: пры пераліку прадстаўленых СМІ дзяжурны камэнды здымаў фуражку й выціраў пот з ілба.

А хіба можна забыцца пра майстар-клясы журналістыкі для маладзейшых ад мэтраў Аляксандра Тамковіча, Аляксандра Старыкевіча, Пятра Марцава, Алеся Ліпая, Валера Карбалевіча, Аляксандра Класкоўскага, Віталя Цыганкова, Алега Грузьдзіловіча, Зьмітра Лукашука, Сяргея Грыца, Юрася Дзядзінкіна, Марыны Бяляцкай, Эдуарда Мельнікава, Паўлюка Быкоўскага, Андрэя Бастунца, Аляксандра Коктыша, Сьвятланы Калінкінай?..

Кожнае імя — эпоха.



*Каманда БАЖ прыехала да Севярынца ў Куплін*

Дзякуючы мацёрым БАЖаўцам на пачатку 2014-га колішнія маладафронтаўцы разам зь вернікамі — супрацоўнікамі незалежных СМІ стварылі пад крылом асацыяцыі «Супольнасьць хрысьціянскіх журналістаў і блогераў», а таксама заснавалі хрысьціянскі інфармацыйны партал «Крыніца.інфо». Зараз гэта асноўная крыніца рэлігійнай інфармацыі ў Беларусі, што зьбірае дзясяткі навінаў усіх канфэсіяў штодня, мае шэраг каталёгаў (сьпіс усіх цэркваў у Беларусі, хрысьціянская музыка, фільмы, сямейная калёнка, каляндар) — і ёсьць галоўнай міжканфэсійнай пляцоўкай у краіне, дзе сустракаюцца тысячы хрысьціянаў. Анатоль Шырвель і Максім Гацак, рэдактары «Крыніца.інфо» — новыя зоркі беларускай незалежнай прэсы.

…Дык што, вы кажаце, дваццаць гадоў БАЖ? Самы сок маладосьці, калі ўсё яшчэ наперадзе.

*Захаваны правапіс арыгіналу*

# СКЕЛЕТЫ в шкафу Жанны Литвиной



Жанна Литвина рассказала «Абажуру» о том, что подарила Минсвязи передатчик, а Минсвязи ей на день рождения — факс. О том, что Федута-де предлагал ей место, а она отказалась. О том, что 18 человек за 5 минут сделали ее той Жанной, которую мы знаем, и о том, стоит ли выбирать подчиненных умнее себя.

Ближе к концу разговора я спросила, сможет ли теперь экс-руководитель БАЖ осилить вышивку крестиком или есть занятие поинтересней...

В завершение беседы Литвина во всем призналась.

## Сначала было слово

Именно из-за слов, сказанных чуть более 20 лет назад в эфире радиостанции «Белорусская молодежная», появилась Белорусская ассоциация журналистов. «Все настолько примитивно», — пожимает плечами Литвина. Действительно, совсем уж предсказуемо: журналистов зажимали, и они решили сами себя защищать. Литвина, вспоминая о той, доБАЖевской части своей биографии, так и сказала: «Не знаю, стоит ли об этом…» Мне, говорит, довелось родиться в Минске, закончить 42-ю школу (быть комсоргом школы), потом — университет, потом попасть на радио, где и «просидеть почти всю свою жизнь — от и. о. младшего редактора до главного редактора». Что тут такого?

***— Так рассказываешь, будто этот период совсем неважен по сравнению с периодом БАЖ, будто в биографии в этом месте можно ставить тире: родился в центре Минска — стал главным редактором.***

— Нет, конечно, не так. Ты не представляешь, что это было для нас: радиостанция «Белорусская молодежная»! Это явление. Мы имели право работать в прямом эфире. Раньше так могли читать новости только дикторы — и то по бумажке. Когда разрешили журналистам (не читать, а говорить), — это была своего рода революция. Поначалу было страшно, но это было какое-то волшебство. На меня до сих пор микрофон действует


Студентка Жанна

магически, когда приглашают в какую-нибудь студию. Включается микрофон, и сразу просыпается что-то. Теперь я больше не как журналист бываю в эфире, а как человек, который отвечает на вопросы, но все равно: атмосфера студии — неповторимое для меня.

***— А что за ощущение?***

— Это какое-то очень сильное, идущее изнутри желание говорить. Говорить, говорить, чтобы тебя слушали и услышали… гм, нет, не сформулирую. Самое близкое сравнение — как у парашютиста, который прыгает в простор… Это какой-то восторг.

***— И адреналин?***

— Да, но очень позитивный, заставляющий концентрироваться. Сама не знаешь, откуда берутся мысли, собранность. Эффект открытого микрофона, публичное выступление, когда перед тобой огромная аудитория, — не каждый сможет это преодолеть. А у меня получается: отдаешь энергетику, выплескиваешь ее из себя — и получаешь взамен. Я люблю такой обмен энергиями.

***— Но ты же говорила, было страшно.***

— Только вначале. Хотя самое страшное публичное выступление было не в студии, а на вручении премии Сахарова в Европарламенте. Нужно было уложиться в 14 минут 55 секунд, такой регламент. Я не репетировала, внутренний секундомер со времен радио остался. Впрочем, я сейчас вот думаю, это и не страх был, что-то другое. Бывает, выходишь — и коленки трясутся. Однажды я видела, как выступает Юлия Тимошенко. Вот уж кто, казалось, говорить умеет, только давай публику. Это было в Совете Европы: огромный зал, выходит она в белоснежном костюме (зимой дело было), по бокам квадратом четверо мужчин (как обрамление) — и она, такой бриллиант! Наверняка все продумано до мелочей, и вообще — она ж такая актриса. Смотрю на нее, такую прекрасную, а у нее юбка колышется — дрожь сильная, заметно со стороны! Очень эмоциональное выступление у нее было. И я успокоилась — не только со мной такое бывает!

## Первопроходцы прямого эфира

***— «БМ» ведь первая радиостанция, заговорившая в прямом эфире?***

— Да. И сразу взлетели рейтинги. Традиционно десятилетиями в 19:00 по радио шли новости из Москвы. Но из-за нас руководство Белорусского радио пошло на ломку сетки вещания и позволило работать в эфире в 19 часов. И вот в январе 1991 года — вильнюсские события. Мы только неполные две недели работаем, экспериментируем. Сережа Дубовец выходит в эфир из Вильнюса и говорит: оккупация советскими войсками, штурм телебашни! И в том же эфире журналист Радио «Свобода» Василь Крупский сообщает: в Персидском заливе по одну сторону такие-то войска, по другую — такие… Что началось! Звонили нам без конца: прекратите нагнетать, что вы творите! Потом в парламенте была создана комиссия, депутаты срочно выехали в Вильнюс (иного способа узнать о происходящем не было). Только назавтра потихоньку Москва стала давать информацию о происходящем, и все узнали, что там есть человеческие жертвы. Я думала — не доживу до утра. А в Персидском заливе к утру действительно началась война, и я была уже ни жива ни мертва: ну, думаю, «развязывание» войны на Ближнем Востоке мне не простят.

***— Это дико, конечно, признавать, но, к сожалению, самые яркие профессиональные воспоминания у журналистов связаны именно с тяжелыми событиями. Помнишь, когда в парламенте ждали решения по импичменту, когда разгоняли манифестации, все эти наши выборы с дубинками и автозаками. Или когда случилась трагедия на Немиге… Журналисты работали, как пчелы в потревоженном улье. И адреналин тебе, и заработки. Жанна, есть ли у нас оправдание? Где грань: что хорошо, что плохо?***

— Нет грани, это у каждого свое, только человеческое отношение. Никаких оправданий не нужно, такая наша работа. Все метались в поиске информации, но посмотри, кто это был, — независимая пресса. А по телевизору шли себе фильмы, по радио — концерты, и первая официальная информация по Немиге появилась в государственных

СМИ только наутро, после того, как место трагедии посетил президент. Вот мы часто говорим: журналистика — профессия ответственная. Это хорошо, то плохо! Замусолили уже. Но в таких форс-мажорных ситуациях проверяются совесть, ответственность.

Я, кстати, не знаю, какое качество должно быть у журналиста главным, а какого быть не должно. Думаю, не должно быть оглядки на начальство. Почему не освещали «Немигу» государственные СМИ? Потому что не было команды! Это случилось в воскресенье к вечеру. Если что-то происходит в выходные или поздно в пятницу, никто не возьмет на себя ответственность проинформировать людей. Ждут, когда отыщут ушедших домой начальников, а те пока согласуют… Вот тут преимущество независимой журналистики, которая работает по профессиональным стандартам: информацию нужно давать людям как можно быстрее.



*В студии «Белорусской молодежной»*



*В эфире*

***— А БАЖ для чего регистрировали: чтобы эти стандарты создать? Или только защитить тех, кто их всегда придерживается?***

— И то и другое. Но был еще один важный момент. Когда ликвидировали радиостанцию «Белорусская молодежная», у нас же столько было сторонников! Солидарность проявляли даже в кабинетах. Но все равно: ты падаешь, и ощущение, что ты один, очень сильное. Для меня лично это было толчком. Я — главный редактор, и мое детище просто раскидали…. Я почувствовала, что должна быть структура, которая бы взяла на себя часть груза, даже в моральном смысле. Ведь, работая в звездной редакции «Белорусской молодежной», я осознавала, что вокруг меня враждебная среда, и уже были звоночки, и предчувствие было: высшие руководители и председатель Белгостелерадио Столяров вызывали, велись мучительно длинные беседы. Все это без поддержки было сложно переживать.

***— Про тебя твои друзья говорят: она доверчивая, мягкая, не думайте, мол, что она суровая или железная, всегда такая в строгом пиджаке. Как же ты, такая пушистая и в то же время опальная, так быстро волны для «Радио 101,2» выцарапала?***

— Действительно, с фамилией Литвина после «БМ» трудно было чего-то добиться. В Минсвязи не пойдешь, частоту не получишь. Но вокруг «Белорусской молодежной» было много поклонников. Среди них влюбленный в радио человек — Михаил Князевич. Мы вместе мечтали о своей радиостанции. И договорились о разделении труда. Я многих чиновников знала и консультировала Мишу: с кем и как разговаривать. Мы подолгу разрабатывали стратегию. И он ходил



Таланты Радио 101,2

по кабинетам. Тогда уже были газета «Белорусская молодежная» и на 8-м канале «Студия БМ» (правда, недолго — до первого референдума). В зачатке это была гениальная, на мой взгляд, структура — синтез, редкий по тем временам. И главное — талантов хватало! Это были подъем, взлет!

## Куда пойти работать

***— Как же ты решилась уйти от таких перспектив и взвалить на себя БАЖ?***

— Нет, не так было. Ключевую роль сыграл Карлос Григорьевич Шерман. Он сказал: «Жанна, ты только зарегистрируй, а потом, если не захочешь, — переизберем». Я подумала: «Радио 101,2» уже месяц в эфире, и нужно действительно что-то сделать, чтобы у журналистов была опора. Но «Радио 101,2» быстро закрыли — кстати, в мой день рождения, 30 августа. Совершенно неожиданно прислали факс из Минсвязи: передатчик наш якобы выдавал технические помехи, и нарушалась деятельность служб, которые работают с рациями, — скорая помощь, милиция. В факсе было написано: вы последний день в эфире. Такой «подарок». Передатчик перешел на баланс в Минсвязи, и это уже был «подарок» от нас стоимостью, между прочим, больше 20 тысяч долларов (огромные деньги на тот момент!). Мы тогда получили грант от фонда Сороса, сами бы, конечно, не осилили.

***— А кто все-таки первый сказал: «Давайте наконец сделаем БАЖ!»***

— Все говорили. Это уже витало в воздухе. Через год после президентских выборов, в апреле 1995 года, команда Шушкевича провела очень помпезную конференцию. Одна из секций была посвящена СМИ. Меня попросили провести «круглый» стол и выступить. Вот тогда общими усилиями в обсуждениях мы и пришли к выводу, что в ситуации, когда журналистов можно взять и разогнать, закрыть, прихлопнуть, нужна организация, которая будет защищать интересы независимой прессы. Движущим звеном стал юрист Игорь Рынкевич. Он сказал: «Жанна, вот вы говорили про ассоциацию — нужно создавать!» Тогда гражданское общество уже приходило в движение, и зарождались все эти инициативы, БХК, ТБМ. Но я толком понять не могла поначалу, чем же все-таки будет заниматься наша организация.

***— Еще летом 1994 года у тебя была возможность двинуться по другому пути, ведь приглашали в ряды сторонников будущего президента.***

— Нет, я не могла никуда двинуться. Я была доверенным лицом Шушкевича. Вела его эфиры на телевидении (правда, у меня не очень получалось — он потом выговаривал: «Чего вы меня не перебивали, вопросы не задавали, я ж забываюсь, монологи выдаю…»). У Станислава Станиславовича была отличная команда, с чувством достоинства. Я уважала всех. А Федута с Синицыным после того, как Шушкевич сошел с выборной дистанции, позвали меня сесть в студии на стороне Лукашенко! Пришлось ехать к Федуте и Синицыну, объяснять, что, хоть патрон и пал, но я не могу через день сесть на стороне другой команды.

***— А если бы не эта ситуация, села бы в эфир к кандидату Лукашенко?***


С Мечиславом Грибом и Станиславом Шушкевичем

— Тоже нет. Для меня именно команда Шушкевича была своей. Там был Буравкин, были Ипатова, Богданкевич и много других достойных людей. Они все мне внутренне близки. Рядом со мной была Таня Мельничук. Получалось, что это уже была не просто работа, мне было комфортно в своей среде.

***— Когда создавалась новая информационная служба в структуре Белгостелерадиокомпании, тоже звали?***

— Да, ко мне приезжали двое моих коллег, мы сидели на кухне, и они мне рассказали: создается Агентство новостей, классная такая редакция, Леонид Аноп там (это, если помнишь, «Радиофакт»), Саша Титовец… В общем, идет реформирование, создаются структуры, все по-новому…



*С Василем Быковым и Рыгором Бородулиным*

***— То есть крайне заманчиво. И ты понимаешь, что под эти новые структуры обязательно дается нормальное финансирование.***

— Безусловно, это подразумевалось. Руководить всей информационной службой должен был Титовец, а мне эти парни предлагали прийти руководителем информационной службы на телевидение. Но это ведь уже было невозможно! Я уже получила предложение с Радио «Свобода», в планах тогда уже было «Радио 101,2», пусть городское, но свое. Ну и главное: так много было болезненных моментов после разгона «БМ»! Я понимала: другой я все равно не стану, подержат там меня, измарают и выбросят. Предлагали и должность главного редактора программ для детей на БТ: «Спортландия», «Калыханка». Я была растеряна в тот момент… это стало серьезным испытанием. После молодежной редакции, где я проработала полжизни, остаться на улице — невероятно! Был момент полной неопределенности. Из структуры радио нашу «Белорусскую молодежную» просто выкорчевали. Журналисты мои ходят по собеседованиям в другие редакции, для руководства главным было расформировать команду, растворить в разных местах. Когда прошло последнее собеседование по трудоустройству, позвонил мне Гена Кеснер по поручению всей редакции и говорит: «Эй, Жанна, мы все уволились!» Я ему: «Идиоты, чего вы уволились?» 18 человек! И ведь эти люди стояли в очереди на квартиры, жили в общежитиях, они ж молодые все, неустроенные! Я столько упрашивала начальство: оставьте хоть людей, я-то уйду. Короче, все зря. А они радовались: «Жанна, мы с тобой!» В тот момент они и сделали меня той Литвиной, которой я стала сегодня. У меня не было выхода!

*«Хочу, чтобы журналистика быстрее расправила плечи и ушла из сферы обслуживания»*

***— Если честно: что именно ты подумала, когда 18 человек сказали, что они с тобой, а ты — безработная? Наверное: «А куда я вас теперь дену?»***

— Так и подумала. Хотя уже в кармане лежала регистрация газеты, и радиостанцию пытались пробить, совсем врасплох не застали, но там еще ничего не случилось, а люди уже ушли. И ты не можешь их предать, бросить. По жизни это дорогого стоит. Знаешь, скажу сейчас без ложной скромности: я видела много войн коллективов в защиту своих




*Белорусские журналисты в Европарламенте*



Беседа со Светланой Алексиевич

людей. Поэтому рядом всегда команда.

***— Многие так говорят: «У меня чутье». А потом видят: талантливый-то поджимает руководителя. Пусть не специально, а просто он «лучший по профессии». И начальника душит ревность. Или талантливый корону надел, или прохиндей, или непорядочный — сразу-то не учуешь…***

— Глупость. Все видно сразу. Вначале собираешь трех-четырех человек, потом к ним примыкают те, кто хочет и способен

руководителей, помню прекрасно «Знамя юности», когда убирали редактора. Сотрудники писали статьи: нервами, кровью, все такое. Но руководство меняли, а люди оставались в редакциях. «Белорусская молодежная» — беспрецедентный случай в истории белорусской журналистики, когда в знак солидарности все не пожелали подчиняться. Вера друг в друга, в профессию, в команду заставила уйти. Я это оценила, и тогда в ответ на доверие пришлось стать немного другой.

## Как собрать команду

***— Все время слышу вокруг тебя слово «команда». И в БАЖ тоже у тебя команда. Это тебе так везло?***

— Вот ты у меня спрашивала как-то: не нарисовала ли я хоть какой картины, раз мой отец и сестра — художники. Не нарисовала, природа не наградила даром. У меня нет музыкального слуха — не умею петь, но хорошие песни очень люблю. Не пишу — нет у меня текстов, не процитируешь мои публикации, моя профессия «говорильная». Меня даже спрашивали: «Жанна, а что ты вообще из себя представляешь в журналистике, что ты написала?» Но я знаю, что не напишу лучше, чем многие мои коллеги. Ведь чем я занималась: приходишь от начальства — как мне доставалось, как выкручивали руки! Отбивалась, каждая микрофонная папка под лупой изучалась в дирекции программ. Только в коллективе и была отдушина. И я скажу тебе — почему. Потому что у меня чутье на талантливых

делать одно дело. Если кто-то попал случайно или не вписывается, он сам уходит. Быстро. Потому что те три-четыре человека приходили не на готовое, а созидать. Их ждали трудности. И знаешь, зачем им это было надо? Они уже заболели идеей. Как говорил Сергей Возняк, идея должна овладеть массами. И вот эти люди — ядро. Они собирают вокруг идеи тех, кого увлекли. Так было и в «БМ», и на «Радио 101,2», и потом уже на Радио «Рацыя». И в БАЖ. Все — с нуля. Моя задача — не мешать этим людям ощутить себя созидателями, они работают для себя, а я — движущая сила. И хочу оградить людей от всего, что мешает раскрыться, заборчик вокруг хочу поставить: растите, цветите, светитесь. Нужно всегда оберегать людей, которые талантливы.

***— От кого?***

— Ну… от кого. Неординарные же люди… короче, надо проще сказать: это же сборище



Нам важно быть рядом

одержимых! От них можно всего ожидать. Но не нужно обращать внимания на второстепенное. Талант всегда не подчиняется, он создан, чтобы творить, и не может быть «зацугляным»… Мне важно сохранить стержень, из-за которого я этого человека ценю. Как-то моя коллега по молодежной редакции Нина Чайка сказала в адрес одного начальника: «Вот дурак! Зачем подбирать подчиненных по принципу глупее себя?» Я до сих пор уверена, что в команду нужно набирать людей, которые ярче и умнее тебя! И не надо бояться конкуренции. У каждого своя роль. Выживает структура, где люди работают без узды, фонтанируют, не нужно только им мешать. Люди всегда это ценят, поэтому и остаются рядом! В БАЖ сейчас много молодых, ярких (хоть и не романтичных, какими были мы) журналистов.




*Золотое перо Свободы!*

## А вот в наше время…

***— Можешь сказать, что такое современная журналистика? У меня есть несколько вариантов: призвание (умру, но скажу правду!); образ жизни (просто не могу молчать!); искусство (ай да Пушкин!) или ремесло (имею навыки быстро и качественно выдать информацию).***

— Я думаю, это ремесло. С каждым годом все большее значение приобретает оперативность. Некогда подумать, нужно быстро поставить. Профессия требует мгновенной реакции, в такой ситуации это может быть только ремеслом. Наработка профессиональная, набитая рука, постоянный тренинг. Сегодняшняя журналистика не дает возможности остановиться, даже чтобы сформулировать. Та, наша, журналистика уходит.

***— Недавно я услышала такое определение: журналист — как плиточник. Написал, поставил, через мгновение новая информация, новая — шлеп, шлеп! Такое вот брюзжание в стиле: «А вот в наше время!» — выдал по телевизору заместитель редактора «Ведомостей» Кирилл Харатьян — мой любимый журналист. Я соглашусь с ним: в наше время действительно было иначе.***

— Просто у нынешних журналистов, работающих в электронных ресурсах, иная задача. Кстати, и у тех, кто сейчас вокруг БАЖ, я замечала, другая движущая сила — максимализм. У нас все-таки движущая сила была четкая: знаешь, куда идти — вот оно, в обществе все меняется, уже началось! Пусть не твоя заслуга, но оно началось, и ты в этом процессе! Вспомни, какая страна была: несменяемая власть компартии, СССР — такой спрут! И вдруг в одночасье все рухнуло. В один день эти партийные забирают все свои бумажки и уходят из своих горкомов, обкомов, ЦК и так далее. Я сейчас не в состоянии описать то наше ощущение. Но я помню, как это было, и уверена, что так же будет и с этой властью. И молодые тоже получат свою долю адреналина. А пока… сейчас время технологий, люди находят отдушину в соцсетях. И пусть те, кто сейчас вокруг БАЖ, скорее, прагматичные — все равно это те же люди по стержню.

***— Скажи, почему ты хотела уйти еще три года назад? Тебе уже в кулуарах готовили замену, и, как я слышала, некоторые хотели опять женщину.***

— Я собиралась уйти не из-за этого. Причина была та же, что сегодня: в стране несменяемой власти кто-то должен находить в себе силы и уходить со своих руководящих постов.

***— А тебе нужно было силы найти? Или надоело все это?***

— Иногда приходит ощущение, что ты вычерпала из себя что-то важное, не можешь уже давать столько импульсов, сколько 10–15 лет назад. Закон «общественной усталости» работает. Ну чего сидеть-то? Новые силы зарождаются. Я это чувствовала и понимала уже три года назад: подходящее время, чтобы уйти. Но ведь именно перед съездом вышла эта паскудная программа «Баш на БАЖ», когда из меня сделали… Я не могла уйти изгаженной. Уйти тогда — значит, сделать подарок тем, кто гнобил. И, кстати, дать повод людям, которые не в курсе, подумать: «О! Смотрите, ее быстро убрали, значит, правду про нее на БТ сказали!» На это и рассчитывали. Я и на том съезде, и на этом начала со слов благодарности за поддержку. Мне было безумно важно, чтобы меня поддержали.

> *«Мечтаю создать в деревне сад хвойных пород»*

***— Какие сценарии были «на потом»? Ты вышивать умеешь? Крестиком, к примеру, осилишь?***

— Не-е-ет, нет, нет! Никаких крестиков.

***— Ну, какой-то другой хэнд-мейд? Что-нибудь такое бабское? Говорят, готовишь вкусно.***

— Я вот мучаюсь, мне надо платье новое купить, но как представлю, что по магазинам ходить придется… и не один, наверное, раз. Это все настолько не мое! Просто ужас… А готовить я действительно люблю, и получается вкусно. Я много чего люблю: цветы растить, котов соседских и приблудных (у меня аллергия, и потому дома животных нет), фотографировать, деревню свою (вот мужа уговорила новый стол во дворе поставить, у нас там такие посиделки!), огород люблю, по грибы ходить. Когда я или муж находим гриб, прежде чем сорвать, кричим на весь лес: «Пойдешь смотреть?» — и обязательно идем смотреть. Я — к нему, он — ко мне. Потом срезаем и снова расходимся. Я семью еще очень люблю. Но это все не вместо интересного дела, а параллельно.





***— Какое интересное дело?***

— Во-первых, я остаюсь членом правления БАЖ, а во-вторых, у меня есть планы. Целых 25 лет белорусской журналистики не систематизированы, ничего не описано, не сохранено. Столько изданий было, все это, если не собрать, очень скоро будет забыто. БАЖ не сделала главного — летописи свободной журналистики. Сколько коллег уходит из жизни, а это не только друзья, это носители памяти! Надо срочно этим заняться! БАЖ все может перевести в цифру, собрать все материалы. Например, первая газета: вот первый номер, вот последний. Как закрывали такие газеты, как, к примеру, «БДГ». У меня хранятся эти газеты, и есть с десяток людей, кто помнит самое начало. Все это должно оставаться в истории.

***Когда диктофон выключаешь и уже даже уходишь, часто остается ощущение недосказанности. Почти всегда так, если интервью не к делу, а — «за жизнь». Вот мы с Литвиной о БАЖ так и не поговорили. Я сама не спросила. Может, потому, что БАЖевскую Жанну все и так знают. А вот ту, которая сумела зажечь столько звезд, — далеко уже не все. И все эти ее радиостанции — ведь не созвездия даже, а галактики! И это ведь Жаннино было желание — зажигать. Такое сильное, что осталась у нее даже кличка из тех времен — «шалёная Жанна». Кличка не обидная, потому что Жанна неистово стремилась делать свое радио, и у нее это получалось. Но не получалось сохранять. А вот БАЖ устояла.***




В общем, нужно было вернуться к разговору.

***— Признайся, если поискать скелеты в шкафу, найдется там кто-то, кто имел возможность помочь тебе спасти редакции? Может, тогда бы ты не выбрала общественную деятельность?***

— Очень жаль редакции, но я даже и не знаю, как можно было договариваться. Хочешь поискать скелеты в моем шкафу? Вот, пожалуйста, — целых два. Был у меня долгий разговор с Заметалиным, я просила его восстановить редакцию «БМ» как структуру, хоть без меня. Просила вернуть в эфир коллектив целиком. По-всякому аргументировала, а в итоге Заметалин мне сказал: да вы все журналисты продажные, не надо здесь мне рассказывать, всех вас можно купить, вопрос в цене. Я ему говорю: «Но меня-то вы не купите?» Он промолчал, повисла пауза, на этом разговор закончился, и о возвращении «БМ» в эфир уже не было и речи. А еще, признаюсь, я говорила с Пашкевичем, который тогда работал в администрации президента, просила восстановить уже «Радио 101,2». Пашкевич предложил мне написать «гарантийное письмо» о том, что я беру на себя полную ответственность за контент радиостанции, что она будет работать на высшие эшелоны власти.







*Семья:
доктор исторических наук Алексей Литвин, на руках у Жанны племянник Матвей, рядом родители Матвея — художники Игорь Тишин и Наталья Залозная, Жаннина сестра*



То есть я должна была от руки написать расписку, что радиостанция будет лояльна и не станет трогать их там всех, которые наверху. Но это же вообще ни в какие ворота! Пашкевич, предлагая такую позорную сделку, говорил абсолютно спокойно и даже не покраснел.

То есть мне оставалось одно — уйти. Но я верю в судьбу и думаю, что выбирать между радио и БАЖ мне бы все равно не пришлось. То, что я делала 20 лет, скорее всего, и есть предназначение, и это органично переплеталось с профессией. Ведь я работала для журналистов и с журналистами. В общем, не жалею. Но, если уж признаваться, о чем жалею, то это о том, что не всегда была гибкой. Ну не получалось. Один из самых больших моих недостатков (а может, достоинств?) — неумение договариваться с властью. Вернее, даже не столько неумение, сколько нежелание. Потому и не получилось сохранить радиостанции, они остались в истории как вспышки. 20 лет нам навязывают догму, что СМИ — это партнер власти, механизм для идеологической работы. И в этом беда белорусской журналистики. Успокаивает то, что БАЖ была, есть и будет устойчивой структурой, которую за столько лет не удалось развалить, и ни одна белорусская организация сегодня не обладает таким международным статусом и не имеет такого количества престижных наград. Это говорит об авторитете: нас знают в Европе, уважают, с нами считаются в структурах международного журналистского сообщества.

***— Почему все-таки БАЖ устояла?***

— На все Божья воля.

***Беседовала Марина Беляцкая***
***Фото автора и из архива Ж. Литвиной***

# СТО ДЗЁН ВЕСЛАВАННЯ

Так атрымалася, што напярэдадні 20-й гадавіны БАЖ крыху незаўважна, без асаблівага імпэту, Андрэй Бастунец адзначыў 100 дзён кіравання журналісцкай арганізацыяй. Пасля азначанага тэрміну, як звычайна, можна не толькі задаваць пытанні, але і крытыкаваць нядаўна абранага старшыню. Але, шчыра кажучы, пакуль не бачна, за што.

Аднак даведацца, з чым ён сутыкнуўся на новай і, зразумела, адказнай пасадзе, будзе не лішнім. Таму «Абажур» вырашыў пацікавіцца, якія высновы зрабіў наш новы лідар, што збіраецца найперш здзейсніць ці змяніць.



***— Андрэй, мінула сто дзён пасля вашага абрання. З аднаго боку, пасля такога моцнага лідара, як Жанна Літвіна, вам павінна быць лёгка: сістэма кіравання грамадскай арганізацыяй адладжаная і можа працаваць, бадай што, аўтаномна. З іншага — гэта яшчэ і павышаная адказнасць: як не знізіць планку, не парушыць тое, што стваралася гадамі. Вы ўжо звыкліся з гэтым цяжарам адказнасці?***

— Гэты цяжар адказнасці я адчуваў задоўга да майго абрання, таму і супраціўляўся, як мог, калі мяне вылучалі на гэтую пасаду. Бо я добра ўяўляў, што мяне чакае.

З іншага боку, паколькі я ў арганізацыі даўно, яшчэ з мінулага тысячагоддзя, то ўсе пытанні і праблемы для мяне не новыя. Тым больш, што апошнім часам я

быў намеснікам старшыні. Таму мне не трэба было, як чалавеку звонку, знаёміцца са справамі, шукаць кантакты з людзьмі, наладжваць стасункі і гэтак далей. Я ведаў усіх, мяне ўсе ведалі. Праблемы ўнутры арганізацыі мне добра вядомыя, як і вонкавыя, калі глядзець увогуле на праблемы медыяў у краіне, — яны таксама добра знаёмыя.

Я не «запрошаны антыкрызісны менеджар», які спрабуе кардынальна змяніць сітуацыю. З дапамогай сваіх калегаў я імкнуся захаваць лепшае, што было, і знайсці адказы на тыя пытанні, якія стаяць перад БАЖ, — без рэзкіх рухаў і кіданняў у той ці іншы бок.

***— Якія праблемы найперш прыцягваюць вашую ўвагу, як старшыні БАЖ?***

— Яны адлюстраваныя ў стратэгічных кірунках дзейнасці БАЖ, якія былі прынятыя на з'ездзе. Для арганізацыі прыярытэтнымі застаюцца праваабарончая дзейнасць, адукацыйныя праграмы, маніторынг сітуацыі ў сферы сродкаў масавай інфармацыі, выдавецкая праца (я маю на ўвазе «Абажур»), развіццё сайта... Таксама плануем, як і раней, праводзіць кампаніі, каб прыцягнуць увагу да пэўных пытанняў. У прыватнасці, кампанію за паляпшэнне доступу да інфармацыі. Закрытасць органаў улады ёсць адной з праблемаў не толькі журналісцкай супольнасці, але і ўсяго грамадства.

Што ж тычыцца іншых хібаў у медыясферы, то сёння б я вылучыў дзве. Першая — гэта значнае пагаршэнне заканадаўства аб СМІ і распаўсюд кантрольных функцый Міністэрства інфармацыі на інтэрнэт. Адзначу, што гэтыя кантрольныя паўнамоцтвы дапоўнены магчымасцю выкарыстання санкцый да інтэрнэт-рэсурсаў, прычым незалежна ад таго, з'яўляюцца яны сродкамі масавай інфармацыі альбо не, беларускія яны альбо замежныя.

Другая праблема — судовы пераслед журналістаў-фрылансераў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ. Дарэчы, яе агучылі нашы калегі падчас сустрэчы кіраўніка дзяржавы з журналістамі недзяржаўных мас-медыя. Прэзідэнт паабяцаў разабрацца, таму неўзабаве пабачым, ці прывядзе гэта да станоўчага выніку.



Я ж абсалютна перакананы, што пераслед журналістаў-фрылансераў не адпавядае нормам беларускага заканадаўства і, тым больш, супярэчыць міжнародным прававым абавязацельствам нашай дзяржавы ды канстытуцыйным палажэнням.

Ну і, зразумела, застаюцца ўсе нашыя былыя «хваробы» — эканамічная дыскрымінацыя незалежных выданняў, адмовы ў іх распаўсюдзе праз «Беллпошту» і «Саюздрук», праблемы з доступам да інфармацыі і, урэшце, недэмакратычнае заканадаўства ў галіне свабоды выказванняў і жорсткія падыходы пры яго выкарыстанні на практыцы.

***— Як у любога чалавека, у вас таксама, пэўна, ёсць жаданні нешта палепшыць у межах аб'яднання... Што вы б хацелі дадаць, удасканаліць у структурнай арганізацыі БАЖ?***

— Паўтаруся — у арганізацыі я працую даўно, і тое, што рабілася ў ёй, рабілася ў тым ліку маімі рукамі і з маім удзелам. Ніхто не перашкаджаў мне рэалізоўваць свае ідэі, калі я не быў на пасадзе старшыні. Таму казаць пра тое, што вось зараз прыйшоў Бастунец, мы нешта пераробім, перабудуем і да ровара дададзім яшчэ адно кола, — такога не будзе.

Канешне, ёсць пэўныя задумы, якія павінны паўплываць, у першую чаргу, на ўстойлівасць арганізацыі, на эфектыўнасць працы супрацоўнікаў офіса, на паляпшэнне камунікацыі паміж суполкамі і сябрамі БАЖ.

І яшчэ мне б хацелася, каб голас Беларускай асацыяцыі журналістаў лепш чулі прадстаўнікі ўладных структураў, каб у нас наладзіўся дыялог, а не толькі наш маналог, які часта патанае ў глухой пустэчы. Над гэтым мы таксама будзем працаваць, але тут далёка не ўсё залежыць ад нас і нашага жадання.

***— Вось наконт гэтага «дыялога»... За дваццацігадовую гісторыю БАЖ тут было ўсякае: і вулічныя акцыі ў падтрымку ды абарону журналістаў, і збор сродкаў і камп'ютараў для тых рэдакцый, дзе падчас ператрусаў забралі аргтэхніку, і нават кнігі для сяброў БАЖ збіралі і адвозілі ў турму ды калоніі-пасяленні, каб папоўніць тамтэйшыя бібліятэкі.***

***З прыходам да кіравання арганізацыяй вас, юрыста, — урэшце, гэта тычыцца любой арганізацыі — падсвядома ўзнікае перасцярога, што ўся дзейнасць можа звесціся да перапіскі з уладнымі органамі і вырашэння ўсіх праблемаў праз судовыя ды іншыя інстанцыі...***

— Ці не буду я «штурхаць» БАЖ у гэтым кірунку? Пакуль што атрымліваецца якраз наадварот. Для мяне было пэўнай нечаканасцю, наколькі змяняецца характар маёй працы. Калі раней я больш часу прысвячаў юрыдычным пытанням, — можа, гэта было і лепш, бо я ўсё ж найперш юрыст, — то зараз сутыкаюся з тым, што больш часу ў мяне займаюць іншыя праблемы, перадусім арганізацыйныя. Таму я ўжо не магу прысвячаць прававой дзейнасці столькі часу, як раней, і часткова перакладаю яе на плечы іншых калег, сяброў Праўлення асацыяцыі. Хаця, зразумела, і сам працягваю займацца юрыдычнымі пытаннямі. Бо, як я ўжо казаў, прававая дапамога сябрам БАЖ, абарона іх падчас канфліктных сітуацый застаюцца адным з прыярытэтных кірункаў дзейнасці

арганізацыі. Не таму, што я юрыст, — сітуацыя прымушае.

Але гэта не значыць, што іншыя напрамкі дзейнасці застануцца ў заняпадзе. Тым больш, што планаванне дзейнасці арганізацыі не ёсць прэрагатывай старшыні. Вось з'езд распрацаваў стратэгічныя кірункі, Рада вызначыла тактычныя захады па іх рэалізацыі, Праўленне кожны месяц абмяркоўвае канкрэтныя дзеянні на бліжэйшы час… Дарэчы, кожны з сяброў арганізацыі, які мае пэўныя ідэі ці прапановы, можа звярнуцца ў цэнтральны офіс ці ў мясцовую філію, каб абмеркаваць іх і потым ажыццявіць. Заўважу, што рэгіянальныя суполкі, іх актывісты шмат у чым вызначаюць дзейнасць нашай арганізацыі.

***— Вы ў БАЖ з 1998 года. Калі казаць пра 20-годдзе арганізацыі, кожны сябра для сябе ўзгадвае нешта адметнае. Што вы лічыце дасягненнямі арганізацыі, і якія выклікі паўстануць у далейшым?***

— Я памятаю, якою была БАЖ, калі я прыйшоў. Тады ўсе, у тым ліку Жанна Мікалаеўна, недзе працавалі, апроч БАЖ. То бок пасада старшыні была чыста грамадскай, на валанцёрскіх пачатках працавалі і іншыя актывісты асацыяцыі.

З цягам часу БАЖ паступова станавілася прафесійнай арганізацыяй як з пункту гледжання працы супрацоўнікаў офіса, так і ў сэнсе стаўлення людзей да агульнай справы. І за гэтыя гады, я лічу, БАЖ стала адной з галоўных арганізацый у грамадзянскім сектары Беларусі. Тыя шматлікія ўзнагароды, якімі адзначылі нашу дзейнасць, гэта пацвярджаюць: «Залатое пяро свабоды», якое БАЖ атрымала ў 2003 годзе ад Сусветнай асацыяцыі газет, прэмія Сахарава ад Савета Еўропы ў 2004-м, «Прэмія Свабоды» Атлантычнага Савета ў 2011 годзе… Пацвярджае гэта і рост даверу журналістаў да арганізацыі. 20 гадоў таму яе заснавалі менш за 40 чалавек, а сёння ў БАЖ больш за 1200 сяброў.

***— А выклікі?***

— Выклік у нас, па вялікім рахунку, адзін. Гэта рэзкае ўзмацненне кантролю дзяржавы ва ўсіх сферах жыцця. У галіне медыя гэта выяўляецца ў тым, што ўлады, увёўшы жорсткі кантроль над традыцыйнымі СМІ, апошнім часам дабраліся да кнігавыдавецтва, сістэмы распаўсюду незалежных друкаваных выданняў, інтэрнэту...

А з 1 студзеня наступнага года ўводзіцца кантроль не толькі за інтэрнэт-рэсурсамі, але і за іх карыстальнікамі: беларускія правайдэры мусяць усталяваць праграмнае забеспячэнне, якое дазволіць адсочваць дзеянні карыстальнікаў і захоўваць гісторыю іх паводзінаў у Байнэце.

Прастора свабоды сціскаецца, як шагрэневая скура, і гэта і ёсць нашай галоўнай агульнай праблемай.

Вядома, высілкамі толькі БАЖ і нават усёй журналісцкай супольнасці гэтую праблему вырашыць немагчыма. Але і памяншаць важнасць нашых дзеянняў не трэба. Нягледзячы на тое, што дзяржава крок за крокам захоплівае новыя пазіцыі, незалежныя СМІ, грамадскія арганізацыі, БАЖ працягваюць выконваць свае асветніцкія ды праваабарончыя функцыі.

Дарэчы, рэгулярныя рэйтынгі даверу СМІ, якія складаюць сацыялагічныя цэнтры, паказваюць, што ўзровень даверу да дзяржаўных і недзяржаўных СМІ прыкладна аднолькавы. І гэта пры абсалютна несупастаўляльных рэсурсах недзяржаўных і дзяржаўных медыяў.

***— То бок наш поспех — як у Курта Ванегута: «У чым дасягненне чалавецтва? У тым, што, нягледзячы на ўвесь ягоны досвед і гісторыю, яно выжыла і мае намер выжыць далей»?***

— Прыкладна так. Увогуле, калі пытаюцца пра планы і перспектывы, я заўсёды ўзгадваю пачатак 2000-х гадоў. Тады на адным са з'ездаў БАЖ была прынятая праграма, якая мела назву «Ад тактыкі выжывання да стратэгіі інфармацыйнага лідарства». Пасля гэтага рэзка ўзмацніўся ціск на недзяржаўныя СМІ, больш як 20 незалежных медыяў вымушаны былі прыпыніць свой выхад на тры месяцы з прычыны санкцый Міністэрства інфармацыі, пасля чаго далёка не ўсе з іх здолелі ўзнавіць сваю дзейнасць. Тады ж быў выбіты з абоймы адзін з флагманаў недзяржаўных СМІ краіны — «Белорусская деловая газета». Колькасць недзяржаўных грамадска-палітычных СМІ, якіх на 2000 год налічвалася каля 60, праз «пяцігодку» паменшылася ўдвая. І казаць пра «інфармацыйнае лідарства» альбо ўзгадваць тую праграму можна цяпер толькі з прыкрай усмешкай…

Трэба рабіць тое, што трэба — і хай будзе, што будзе. Спадзяюся, што ўсё ж такі будзе лепш.

*Падрыхтаваў*
*Сяргей Пульша*

# Freedom House: у галіне свабоды прэсы Беларусь знаходзіцца побач з Паўночнай Карэяй і Эрытрэяй

Беларусь увайшла ў дзясятку краін і тэрыторый, дзе сітуацыя ў галіне свабоды прэсы найгоршая ў свеце. Пра гэта гаворыцца ў дакладзе «Свабода прэсы-2015», які апублікавала праваабарончая арганізацыя Freedom House.

Акрамя Беларусі ў дзясятцы — Іран, Куба, Крым (у якасці тэрыторыі), Паўночная Карэя, Сірыя, Туркменістан, Узбекістан, Экватарыяльная Гвінея і Эрытрэя.

У Беларусі, паводле даклада, працягваецца ціск на незалежных журналістаў. Адзначаецца, што ў 2014 годзе завялі больш за 20 судовых спраў па абвінавачванні журналістаў без акрэдытацыі ў «незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ».

У дакладзе згадваецца пра ваеннага эксперта Аляксандра Алесіна, якога затрымалі па падазрэнні ў шпіянажы, а затым адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе.

Адзначаецца, што ў снежні 2014 года ў закон аб СМІ ўнеслі папраўкі, якія дазваляюць Міністэрству інфармацыі Беларусі блакаваць сайты СМІ без рашэння суда, калі яны атрымалі два папярэджанні на працягу года.

Аўтары дакумента прыгадваюць часовае блакаванне сайтаў недзяржаўных СМІ — у прыватнасці, газеты «Наша ніва», інфармацыйнага агенцтва БелаПАН і яго інтэрнэт-газеты «Белорусские новости» (naviny.by), сайтаў «Беларускі партызан» (belaruspartisan.org), «Хартыя'97» (charter97.org), інтэрнэт-газеты «Салідарнасць» (gazetaby.com), сайта «Заўтра тваёй краіны» (zautra.by) і рэсурсу udf.by.

Адзначаецца, што ў Беларусі захоўваецца манаполія дзяржавы на тэлеявшчанне, а дзяржаўныя СМІ атрымліваюць фінансаванне з бюджэту.



Пад рубрыкай «Гадзіннік» мы вырашылі ўзгадаць пра падзеі і праблемы, якія, на жаль, не скончыліся ў час, калі «Абажур» звяртаў на іх увагу. Мы шмат чаго дамагліся, шмат у чым застаемся непахіснымі. Але чаму гэтыя артыкулы з архіва «А» дагэтуль застаюцца актуальнымі?

*Андрей БАСТУНЕЦ, «А» №№ 11–12 (66–67), 2007 год*

# 07:

**Ретроспективный взгляд чреват искажением перспективы. События, которые по времени расположены ближе, ощущаются острее и представляются более значительными, чем случившиеся в начале года. Впрочем, на объективность этот обзор и не претендует. Это всего лишь субъективный взгляд назад (читается слитно), авторский топ медийных лидеров 2007 г.**

Итак, начинаем обратный отсчет.

На первом (с конца) месте — «Белпочта» и «Союзпечать». Принципиальность этих «самостоятельных субъектов хозяйствования» до сих пор влияет на ситуацию со СМИ в Беларуси определяющим образом. На седьмой, а не гораздо более высокой позиции они только потому, что с 2005 г., когда половина независимых газет была выброшена из государственного распространения, практически ничего не изменилось. Разве что в конце этого года к пострадавшим белорусским изданиям присоединились и некоторые российские, тоже не попавшие в подписной каталог.




*«Витебский курьер» переезжает. Городские власти в тот раз не «порекомендовали» витебскому таксопарку иметь такого арендатора*

Ступенькой выше — сотрудники органов внутренних дел. Минск, Брест, Шклов, Гродно, Могилев, Бобруйск, Витебск… Список населенных пунктов, где доблестные стражи порядка задерживали журналистов, можно продолжать и продолжать. Особо резонансными, и даже с международным оттенком, были инциденты в Барановичах, когда под руку служивым попались аккредитованные корреспонденты зарубежных СМИ, да на белорусско-украинской границе, где задержали журналистов, возвращавшихся с фестиваля с прикольным, как оказалось, названием «Право быть свободным». И все же на фоне прежнего года в 2007-м милицейская служба была, «на первый взгляд, конечно, не видна». Да, прессу и ее распространителей задерживали, да, делать им «сомнительные дела» не давали — но ведь почти всегда и отпускали. Поэтому — лишь второе место снизу. То ли дело в 2006 году, когда только в славные мартовские денечки повязали 46 журналистов, да всех через суды пропустили, да свидетельствовали так, что ни словом сказать, ни пером описать. Хотя нет, перья все-таки скрипели — секретарские. Кто-нибудь когда-нибудь с большим интересом перечитает эти записи.

Заслуженное третье место снизу поделили сотрудники Комитета государственной безопасности и работники идеологических отделов, боровшиеся за звание самых внимательных читателей, слушателей и потенциальных зрителей демократических СМИ. Особенно отличились гомельские и гродненские «оптимисты в штатском». Так, гомельские в начале года изучили сайт радио «Свабода», вызвали к себе чиновников, дававших интервью «вражеской радиостанции», и провели необходимую разъяснительно-выяснительную работу. Особо растолковывать, собственно, не пришлось (легко понять состояние госслужащих, вызванных в Контору), зато вычислили личность интервьюера. Итак, КГБ допросил и выявил (безопасность государства превыше всего!), прокурор составил протокол, суд осудил, кассация подтвердила решение первой инстанции... Вы слышите, как крутятся шестеренки государственной машины? Но ради чего? Чтоб оштрафовать журналиста на две базовых? За распространение материалов, к достоверности которых

# ВЕЛИКОЛЕПНАЯ СЕМЕРКА

претензий нет? А как же Международный пакт о гражданских и политических правах, ратифицированный Беларусью? Там ведь черным по белому записано, что каждый человек имеет право получать и распространять всякого рода информацию и идеи независимо от государственных границ!

Но некогда служивым людям читать пакты. Они читают независимую прессу. Вот в Бобруйске чиновник вычитал, что городские мероприятия на 7 ноября «Бобруйский курьер» назвал митингом. Какой же это митинг? Митинг — это совсем другое. И пригрозил закрыть газету. Еще бы за грамматические ошибки и «очепятки» закрывать — вот тогда был бы полный порядок. Впрочем, был такой порядок, был. И не только газеты закрывали, но и авторов. Для торжества всеобщей грамотности.

Интересуются державные мужи не только прессой, но и интернетом. Зимой правительство озаботилось работой интернет-клубов. Весной были привычно блокированы сайты, ведшие он-лайн репортажи с акций оппозиции. Летом глава государства заявил, что анархию в интернете нужно остановить: мол, «нельзя допускать, чтобы это техническое достижение превратилось в информационную помойку». Ну а к осени подключились и остальные. Суды осудили Андрея Климова (как раз таки за интернет-публикацию), министерство информации отрапортовало о создании комиссии по изучению международного опыта в этой сфере (сразу же упомянув о китайском), депутаты активизировали работу над проектом закона «Об информации, информатизации и защите информации»... Словом, следующее топ-место — многочисленным «регулировщикам» интернета.

Пока боролись с газетами, вражеским радио и интернетом, возникли новые угрозы. Из космоса. Про войну со спутниковыми тарелками пока не будем: чует сердце, что повод вернуться к этому появится в следующем году. В этом же получился такой же результат, как и с запуском собственного спутника: много шуму — и ничего. А вот про спутниковый канал «Белсат» вспомнить самое время. И разместить его на третьем месте, но уже сверху. «Мне сверху видно все, ты так и знай». Можно предположить, что «Белсату» видно сверху, из космоса, но пока не ясно, что будет видимо снизу. Ни территория распространения сигнала, ни качество картинки, ни ее содержание пока не известны (на момент подготовки материала канал еще не начал вещания). Зато известно, что без внимания «Белсат» не останется. Сотрудники силовых и секретных ведомств уже начали пристально разбираться с редакционной политикой нового телеканала и личностями его работников — еще до того, как новое телевидение само с ними определилось.

Чуть ли не самым шумным событием уходящего года оказался поход рок-музыкантов в Администрацию президента. Резонанс получасового «собеседования» выдвинул Вольского,



*Александр Куллинкович, Лявон Вольский, Пит Павлов, Олег Хоменко и Игорь Ворошкевич во время пресс-конференции, посвященной их встрече с официальными лицами из Администрации президента, Минск, 23 ноября 2007 года*

Павлова, Куллинковича, Хоменко и Ворошкевича в число главных ньюсмейкеров страны — и на вторую ступеньку «пьедестала почета». Казалось бы, что случилось? Рокеры прошли маршрут, хорошо известный негосударственной прессе. Вытеснение в резервацию, молчаливое сочувствие (или сочувственное молчание?) аудитории, неудачные попытки решить проблему правовым путем и, наконец, переговорный процесс... У редакторов независимых газет не получилось. Может, музыканты окажутся более удачливыми. Но будет эфир или нет, пока не известно, а отклик интернет-сообщества они уже получили. И, похоже, оказались к нему не готовыми. «Звезды и символы» не смогли четко и своевременно разъяснить свою позицию, допустили возможность двусмысленных толкований, а потом еще и обиделись, разделили пишущую в форумах братию на «чистых» и «нечистых» в зависимости от тональности комментариев.

Поучить, как защищать свою репутацию, может собеседник рокеров, Олег Пролесковский. Как раз накануне их встречи вступило в силу судебное решение, по которому в его пользу с «Народной воли» и журналистки Марины Коктыш было взыскано 27 миллионов рублей. По иску о защите чести, достоинства и деловой репутации. Еще большее достоинство оказалось у Николая Чергинца, который в те же дни подал иск к «Новаму Часу» и Александру Томковичу. Свои моральные страдания генерал, писатель и сенатор оценил в 600 миллионов рублей. Особую пикантность этой истории придает то, что именно в «Новам Часе» публикуется литературная страничка Союза писателей, «официальную» альтернативу которому возглавляет Чергинец. В этом «хит-параде» место у Николая Чергинца и Олега Пролесковского — первое.

Глядя на суммы, которые требуют государственные люди в качестве компенсации своих нравственных страданий, невольно думаешь, что высшие должности в нашем отечестве занимают сплошь ранимые и тонкие натуры. И чем должность выше, тем ранимее и тоньше ее заместитель. А еще вспоминается формулировка, что человек — это дробь, в знаменателе которой то, что он думает о себе, а в числителе — что думают о нем другие. Что в знаменателе у многих начальников и «слуг народа», мы уже знаем. А цифру в числителе определит отнюдь не суд, а время. Вот оно-то всех по местам и расставит.

# ШТО БУДЗЕ



*Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, «А» № 1 (76), 2009 год*

**2008-ы для нашай медыйнай супольнасці стаў годам зебры. Палоска чорная, палоска светлая… У сакавіку быліператрусы і канфіскацыі, пры канцы ж года нашы бязмежна велікадушныя ўлады вярнулі ў распаўсюд два брэнды незалежнай прэсы. Радуйся, народ! Да новай душылаўкі.**

## Першы акт марлезонскага балета

Праблема ў тым, што ніводзін рэпрэсіўны механізм не зламаны. Увесь арсенал здушэння вольнага слова, незалежных СМІ можа быць элементарна прыведзены ў дзеянне, варта толькі сапсавацца кволаму дыялогу Мінска з Еўропай. І будзе вам тады другі акт марлезонскага балета.

Між тым дыялог Захаду з тутэйшай уладай надта празрыстым не назавеш. Адно што Еўропа «зліла» змест прапаноў афіцыйнага Мінска — таго хатняга задання, што ён гатовы выканаць, каб 13 красавіка 2009 года Брусель не размарозіў візавыя санкцыі супраць высокага чынавенства.

Такім чынам, з Мінска ў еўрапейскія структуры 19 лістапада, калі памятаеце, пайшла папера з абяцаннямі, два з якіх тычацца менавіта медыйнай сферы:

- вярнуць у распаўсюд «Народную волю» ды «Нашу ніву»;
- узяць пад увагу вынікі «круглага стала» пад эгідай Міністэрства інфармацыі і АБСЕ, прысвечанага пытанням заканадаўчага рэгулявання дзейнасці інтэрнэт-СМІ.

Лёд крануўся. Дзве ашчасліўленыя рэдакцыі (якія пасля «выкіндэсу» незалежнай прэсы з падпісных каталогаў ды кіёскаў перад выбарамі-2006

# ПАСЛЯ ГОДА ЗЕБРЫ?

амаль тры гады мусілі ладзіць распаўсюд саматужна) падпісалі дамовы з поштай і «Саюздрукам». Умовы манапалістаў — асобная песня. Як лічаць у рэдакцыі «НН», адбіраць у яе 55% ад прадажнай цаны асобніка — гэта чысты грабеж.

Дарэчы, калі тыя газеты «вычышчалі», то ўсё падавалася як «стасункі гаспадарчых суб'ектаў»: маўляў, эканамічна нявыгадна…

Цяпер, калі ўсё адкруцілі назад па загадзе з самага верху, мы бачым, хто ў нас вырашае, быць ці не быць незалежнай прэсе ў нацыянальных сетках распаўсюду.

Зрэшты, дзеля свабоды СМІ дозу такога «валюнтарызму адлігі» можна пацярпець. Іншая рэч, што рашэнне палавіністае. Мінск у палітычным гандлі з Бруселем хоча абмежавацца мінімумам саступак. За бортам застаюцца яшчэ многія выданні — ад леваапазіцыйнага «Товарища» да рэгіянальных грамадска-палітычных газет.

Аўтар гэтых радкоў не так даўно меў магчымасць асабіста запытацца ў галоўнага ідэолага дзяржавы сп. Янчэўскага пра лёс астатніх рэпрэсаваных медыяў. Адказ быў: пабачым!

Ну што ж, пабачым.

**Ніводзін рэпрэсіўны механізм не зламаны. Увесь арсенал здушэння вольнага слова, незалежных СМІ можа быць элементарна прыведзены ў дзеянне, варта толькі сапсавацца кволаму дыялогу Мінска з Еўропай.**

## Чыноўнікі плятуць сваё сеціва

Мой дыялог з кіраўніком ідэалагічнай управы прэзідэнцкай адміністрацыі адбыўся ў кулуарах таго самага «круглага стала», вынікі якога афіцыйны Мінск абяцае ўлічыць.

Як высветлілася, і самі чыноўнікі ўсімі фібрамі за свабоду слова. А калі і хочуць каліва прыструніць інтэрнэт-вольніцу, дык выключна дзеля таго, каб паставіць заслон усякім кіберзлачынцам: педафілам, тэрарыстам і да т. п. Цягам мінулагодняй канферэнцыі «Інтэрнэт-медыі: выклікі XXI стагоддзя» маньякам не аднойчы ікалася. Гэтак часта згадвалі пра іх дзяржаўныя людзі, даводзячы, што толькі супраць гэтай навалачы і рыхтуецца нейкі таямнічы дакумент аб парадку дзяржаўнай рэгістрацыі інтэрнэт-СМІ.

Вожыку зразумела, што гэтая рэгістрацыя дапаможа барацьбе супраць педафілаў ды бамбістаў як хваробе кашаль. З іншага боку, удумайцеся: якая розніца, дзе адбылося злачынства: у рэале ці віртуале? Ёсць куча ўсялякіх законаў — ад Крымінальнага кодэкса да тых, што ахоўваюць аўтарскае права. Болей чым дастатковы інструментарый, цалкам прыдатны і супраць кіберзлодзеяў. Ёсць і адпаведныя адмыслоўцы ў родным МУС. Так што, далібог, пакінулі б вы ў спакоі сумленных працаўнікоў вэб-журналістыкі!

Бальшыня экспертаў, на мой погляд, аргументавана давяла, што чыноўніцкі сверб «зарэгістраваць інтэрнэт» — справа шкодная і безнадзейная. Юры Зісэр, культавая фігура Байнэту, параўнаў высілкі заканадаўцаў у гэтым пытанні з намерам меліярацыйнай канторы асушыць частку Сусветнага акіяну. Грубае адміністраванне хіба што папсуе крыві вэб-журналістам, выцісне сеціўныя медыі з дамену «.by» у іншыя (шукай ветру ў полі!) ды яшчэ болей азмрочыць імідж афіцыйнага Мінска як «ворага інтэрнэту».

Цяпер слова за ўладай. Чыноўнікі далі зразумець, што могуць пайсці на заяўляльны, то бок добраахвотны, прынцып рэгістрацыі інтэрнэт-СМІ. Гэта ўжо праграэс, бо раней казалі пра татальнае ліцэнзаванне. Найлепей жа было б увогуле не прымаць ніякай «пастановы пра інтэрнэт». Сп. Янчэўскі намякнуў на магчымасць такога варыянта.

## Крок наперад, два крокі назад

Але радавацца рана. Нават калі і не будзе той пастановы, то сам свежаспечаны закон аб СМІ не адпавядае стандартам АБСЕ. У ім багата пастак для свабоды слова і друку (напрыклад, механізм акрэдытацыі журналістаў, які развязвае рукі чыноўніцкаму самаўпраўству і дазваляе адсякаць неўпадабаных). Паводле еўрадэпутата Яцэка Пратасевіча, гэты медыйны закон — адзін з самых жорсткіх у Старым Свеце.

Сёлета ў лютым ён пачаў дзейнічаць, і, на думку незалежных экспертаў СМІ, атрымалася класічнае: крок наперад, два крокі назад. На добры лад варта было б скасаваць шэраг яго рэпрэсіўных артыкулаў. Бюро прадстаўніка АБСЕ ў пытаннях свабоды СМІ гатовае за мілую душу кансультаваць тут беларускую ўладу. Падкрэсліваюць: задарма! Але, магчыма, нашым чыноўнікам гэта акурат і задарма не патрэбна.

Ну скажыце, чаму б падобныя «круглыя сталы» не зладзіць было год таму, калі толькі рыхтаваўся той закон аб СМІ? Хто гнаў у шыю, хто змушаў прымаць яго ў рэжыме абваранай кошкі? А зараз нават калі ў чым і саступілі ўлады, дык палёгка атрымалася такая ж умоўная, як у старым анекдоце: купі казу — прадай казу!

Цяпер мы назіраем амаль што ідылічны перыяд, калі беларускія і еўразвязаўскія чыноўнікі дэманструюць вербальнае братанне. Але варта чорнаму кату праскочыць між Мінскам і Бруселем — і ў нас можа пачацца ранейшая душылаўка. Таму звышзадача — дамагацца мінімальна прыстойных рамкавых умоў для палітычнага, медыйнага плюралізму, развіцця грамадзянскай супольнасці.

Між тым высветлілася, што дарожнай карты, пра якую было столькі звону, у Еўропы няма. Са слоў сп. Хальцапфеля, кіраўніка мінскага офіса Еўракамісіі, Брусель вырашыў скарыстаць «гнуткі інструмент для дыялога». Мы, маўляў, наўмысна не складалі пакрокавай стратэгіі, каб мець абсяг для манеўру. І да 13 красавіка 2009 года, калі заканчваецца тэрмін замарозкі санкцый, Мінск мусіць прадэманстраваць прагрэс у выкананні 12 ранейшых умоў Бруселя, з якіх вылучаныя пяць ключавых.

Зразумела, Еўропа дзьме на ваду. Яна ўжо апяклася на выбарах. Заходнікі дзяўблі: гэтая кампанія стане для беларускіх уладаў тэстам на жаданне… і г. д. У выніку атрымалі анучай па твары: «стэрыльная палата»! А між тым ужо ўзялі кірунак на нармалізацыю, і так неахвота зноў у акопы вайны з «апошняй дыктатурай»! Давялося глытаць пілюлю. І цяпер вось Еўрасаюз страхуецца гумавым паняткам «прагрэс».

Дыялог ЕС з Мінскам мусіць стаць болей празрыстым. Каб у Бруселя не было спакусы «зліваць» балючыя для беларускай дэмакратычнай грамадскасці пытанні, ставячы фармальныя птушкі ў адпаведных графах. Кшталту: «круглы стол» праведзены — птушка, паехалі далей.

Бо на адных прыгожых словах нашага начальства, пракансультаванага лордам Бэлам на прадмет максімальнага ўжывання ліберальнай лексікі, далёка не ад’едзем.

І тут важную ролю можа выканаць прынцыповы маніторынг Беларускай асацыяцыі журналістаў.

БАЖаўская праграма-мінімум цывілізаваных рамкавых умоў медыйнай працы праклямавалася не аднойчы, паўтараць не буду. Вось па гэтых канкрэтных пунктах, а не па рыторыцы, і трэба адсочваць, ці ёсць нейкі рэальны прагрэс.

## Крыхі галоснасці з панскага стала

Пры канцы лістапада 2008 г. аўтару гэтых радкоў давялося ўдзельнічаць у віленскай канферэнцыі дэмакратычных сіл. Партыйныя лідары шмат разважалі пра неабходнасць прыцягнуць пад свае сцягі як мага болей прыхільнікаў перамен. Але як? Чулася знаёмае з камуністычных часоў «пашырыць», «паглыбіць», «узмацніць», «стварыць адмысловую камісію». Згадвалася пра тэхналогію «ад дзвярэй да дзвярэй», пра ўлёткі. (У дні, калі такая прадукцыя трапляе ў паштовыя скрынкі, яе асобнікамі заўжды засмечаны мой пад’езд: ладная частка абываталяў выкідвае агіткі, не чытаючы.)

Хіба што Віктар Івашкевіч з БНФ вылучыў нестандартную прапанову. Маўляў, паколькі ніякіх электаральных кампаній пакуль не прадбачыцца, трэба камунікаваць з насельніцтвам праз прамоцыю незалежнай прэсы. Балазе «Народная воля» і «Наша ніва» якраз вярнуліся ў шапікі ды каталогі.

Але яго прапанова патанула, як камень у багне.

Хтосьці палічыў справу дробнай. Хтосьці наўпрост сказаў: а мяне «НВ» крытыкавала, чаго я буду дзеля яе жылы рваць (тут ноў комэнт)! Камусьці такая кампанія падалася незразумелым альтруізмам.

Але ж гэта б сто разоў акупілася! Досвед паказвае: толькі праз незалежныя медыі палітычная апазіцыя можа нармальна праклямаваць свае погляды.

**Крыхі галоснасці з панскага стала — гэта толькі грубая імітацыя свабоды слова.**

Глядзіце, не адзін год яе лідары дзяўблі пра доступ да дзяржаўных СМІ. Ну і што ў выніку? Мінулай восенню ўлады прадэманстравалі атракцыён нечуванай шчодрасці: далі кожнаму кандыдату па 3 000 знакаў газетнай плошчы, пяць хвілін на радыё і ТБ, а потым яшчэ і прадублявалі эфірныя выступы.

Але ад гэтага разгулу галоснасці неба на зямлю не звалілася. Па-першае, час паказу быў не самы зручны. Па-другое, фармат гаваркіх галоў сам па сабе не надта эфектны. Дарэчы, і ў газетах стандартныя брусочкі тэкстаў-праграм — апрыёры не самае прыцягальнае чытво.

Ну і, нарэшце, скажам наўпрост: за рэдкім выключэннем, самі выступоўцы не ўразілі свежасцю думак і стылю. Відаць, ізноў вырашылі зэканоміць на паслугах прафесійных журналістаў і піяршчыкаў.

Шэраг дэмакратаў, не перанапружваючы мазгі, проста прадублявалі тое, што звычайна пішацца ва ўлётках. Але ж гэта ілюзія, нібыта варта толькі выгукнуць прагрэсіўныя лозунгі на аўдыторыю ці гучна заклеймаваць рэжым — і мы перавернем свет.

Нічога падобнага. Думкі трэба яшчэ і ўмець адшліфаваць, упакаваць, падаць смачна, эфектна,

нестандартна. Выбраць аптымальны жанр, фармат. Толькі тады можна зачапіць нерв паўсядзённых інтарэсаў аўдыторыі.

Гэтая задача вырашаецца не эпізадычнымі прарывамі ў дзяржаўныя медыі, а толькі на грунце шчыльнай супрацы з незалежнымі СМІ. Якія, у сваю чаргу, мусяць мець хаця б мінімальна прыстойныя ўмовы існавання. Гаворка пра больш-менш цывілізаванае заканадаўства, яго карэктнае выкарыстанне, роўныя правы (у тым ліку і гаспадарчыя) з дзяржаўнымі СМІ. Наступны крок — пытанне дэманапалізацыі медыйнай сферы, потым — стварэнне паўнавартаснага медыйнага рынку. Але ў такія ружовыя далягляды пакуль што сягаць не будзьма.

Карацей, відавочна: крыхі галоснасці з панскага стала — гэта толькі грубая імітацыя свабоды слова. Такая паказуха не пагражае асновам рэжыму, яго медыйнай манаполіі. Не вырашае задачы бесперапыннага ўсебаковага інфармавання насельніцтва, рэгулярнай прэзентацыі ўсяго спектра грамадска-палітычнай думкі.

Але некаторыя змагары за светлую будучыню зацыкліліся на гэтых эфірных квотах, на доступе да дзяржаўных медыяў. Далёка не кожны апазіцыйны палітык улучае ў лік першачарговых лозунг свабоды СМІ (а некаторыя дык і ўвогуле мысляць у духу бальшавіцкага кіравання прэсай). Між тым на добры лад пасля вызвалення палітвязняў менавіта пытанне свабоды СМІ мусіць выйсці на першы план у патрабаваннях да кіроўнай вярхоўкі.

Зразумела, так яна і разгоніцца… Але ж кропля камень точыць.

Моцная сістэма незалежных СМІ уплывала б на стан грамадства непараўнальна больш, чым усе віртуальныя «кааліцыі дэмсіл». Гэта быў бы ўжо не калейдаскоп гаварскіх галоў гады ў рады, а перманентны інфармацыйны прэсінг на ўладу, артыкуляванне альтэрнатыўных поглядаў на развіццё краіны, прычым не ў дубовым фармаце, а дыскусійна, кідка, цераз прафесійны падыход, журналісцкі крэатыў.

Зрэшты, не варта ўсё зводзіць да праблемы змагання з рэжымам.

Цывілізаваная медыйная сістэма проста жыццёва неабходная нашай краіне, каб мы не апынуліся ў трэцім свеце, адстаўшы ад эпохі інфармацыйнага грамадства.

## За творчы апгрэйд!

Слабенькая медыйная адліга змушае і нас, журналістаў, задумацца над якасцю свайго прадукту. У нашай палітычна выродлівай рэчаіснасці вялікая спакуса стаць на бок адной з сіл, узброіцца




просценькай чорна-белай схемай. Але не трэба блытаць газету з барыкадай.

Ад эксплуатавання ў медыйнай прасторы біпалярнага падыходу ў абывателя застаецца ўражанне, што кіроўная каманда і яе палітычныя праціўнікі б'юцца за пусты мех, паліваючы адзін аднаго па поўнай праграме. У медыях бракуе культурнай, інтэлектуальнай дыскусіі, асэнсавання шляхоў змены сітуацыі. Асэнсоўваць цяжэй, чым выгукваць лозунгі. Між тым варта даводзіць паспалітаму люду простыя ісціны. Напрыклад: праблема не ў тым, што менавіта Лябедзьку з Вячоркам не пускаюць у парламент, — гэта ж найперш вас, шаноўныя, пазбаўляюць права выбару!

Трэба дапамагаць безгалосаму насельніцтву станавіцца грамадзянскай супольнасцю.

Карацей, незалежная прэса не выедзе на прымітыўных агітках. Трэба варушыць глуздамі: як зрабіць моцны, крэатыўны прадукт? Бо іначай праз нейкі час улада скажа: ну вось, вярнулі ў шапікі, а наклады амаль што тыя самыя!

Глядзіце, як выхад з андэргравнду падхлiснуў рэдакцыю «Нашай нівы». За беларушчыну, за духоўнасць таксама варта змагацца ўмеючы. Сталі шукаць маркетынгавыя хады. Выданне перайшло на колер і — не збаяўшыся гневу адэптаў тарашкевіцы — на акадэмічны правапіс.

Не будзем тут абмяркоўваць, удалы гэта ход ці не надта.

Факт тое, што, каб быць цікавым чытачу (гледачу, слухачу, юзеру), журналіст мусіць трохі варушыць звілінай. Перыядычна ладзіць сабе апгрэйд, кажучы камп'ютарнай мовай.

Зрэшты, годзе вас грузіць. Самы час узняць тост.

Ну, за творчы апгрэйд!

# Плён вяртання

*Сямён ПЕЧАНКО,*
*«А» № 2 (77), 2009 год*

**Мінулы год выдаўся для «першай беларускай газэты з рысункамі» без перабольшання насычаным: у маі «Наша Ніва» вярнулася да звычайнага свайго фармату А3, у пачатку снежня выданне нечакана апынулася ў шапіках «Белсаюздруку», адначасова «рысункі» сталі каляровымі, а сама газЭта валявым рашэннем ператварылася ў газЕту.**

Наша

## Баявы лісток

Ведаю, што неаднойчы пра тое пісалася, але ў гэтым артыкуле, мабыць, трэба прыгадаць, з чаго ўсё пачалося. Напрыканцы 2005 года прысутнасць каля двух дзясяткаў незалежных выданняў у дзяржаўнай сістэме распаўсюду стала раптам эканамічна немэтазгоднай. У падпісны каталог «Белпошты» на 2006 год яны, і «Наша Ніва» ў тым ліку, не патрапілі. Адмовіўся прадаваць «немэтазгодныя» газеты праз свае шапікі і «Белсаюздрук». Цяпер і ўзгадваць не хочацца, з чым прыйшлося сутыкнуцца ў першыя месяцы «вольнага плавання»: распрацоўка самастойнай сістэмы распаўсюду, стварэнне базы падпісчыкаў, дастаўка газеты ў рэгіёны... Апошняе дык увогуле дрыжыкамі па целе адбіваецца, бо самому давялося цягаць пакункі з газетамі па мінскіх вакзалах, перадаючы іх у Віцебск, Баранавічы, Гродна, Магілёў… Ды яшчэ слухаць «кампліменты» ад некаторых пераляканых кіроўцаў на адрас «прадажнай» прэсы…

І, канечне ж, увесь час мы адчувалі ўвагу да сябе: бясконцыя візіты замежных і не толькі калегаў-журналістаў, рэдкія, але запамінальныя кантакты са строгімі таварышамі ў цывільным і па форме. Акурат тры гады таму Мінгарвыканкам даслаў у рэдакцыю ліст, у якім гаварылася, што «размещение газеты «Наша Ніва» в городе Минске является нецелесообразным», бо «…установлено… что 22 марта… главный редактор газеты «Наша Ніва» подвергнут административному аресту сроком на 10 суток».

Мы засталіся ў сталіцы, але шляхі да чытачоў нам увесь час перагароджвалі.

Неяк у адну з крамаў, што наважылася прадаваць газету, наведаліся супрацоўнікі ўплывовай «канторы». Больш «НН» там не прадавалася. Але мы выстаялі. Найперш дзякуючы нашым чытачам. Людзі не толькі падпісваліся на газету, але шмат хто з іх разносіў яе ў сваіх гарадах, нават у 20-градусны мароз, выходзіў на акцыі салідарнасці, не збаяўшыся штрафаў і арыштаў. Як, да прыкладу, нястомны Барыс Хамайда з Віцебска.

Бадай, трэба згадаць і кніжную серыю, заснаваную «Нашай Нівай» у такі, здавалася б, неспрыяльны час. Гэты факт таксама надаваў не абыякой упэўненасці: мы не толькі захавалі газету, але і распачалі такі праект, як уласная кнігарня!

Між тым, з пачатку 2006 года газета пачала выходзіць у фармаце А4 — такі сабе баявы лісток з адпаведнай вёрсткай і непазбежным штотыднёвым рытуалам разрывання / разразання і, па жаданні, сшывання газеткі. У маі мінулага года газета вярнулася да амаль забытага фармату А3. Але, калі трымаў у руках газету старога-новага фармату, няпроста было пазбавіцца ўражання, што гэта нейкі стары нумар — 2005 або 2004 года, які цудам захаваў пах друкарні.

З гэтага моманту было ізноў не сорамна прэзентаваць свежы нумар камусьці з замежных калегаў. Але большыя цуды яшчэ чакалі наперадзе.

## Вяртанне

Рашэнне ўладаў вярнуць дзве газеты ў шапікі ды ў падпісныя каталогі было нечаканым. Дагэтуль рэгулярныя звароты ў адпаведныя структуры з просьбай зрабіць гэта не прыносілі жаданага плёну, а стандартныя адмовы ператварыліся ў штогадовы сумны рытуал. Вось і ў кастрычніку 2008 года «Белпошта» традыцыйна прыгадала «эканамічную немэтазгоднасць», у чарговы раз адмовіўшыся ўключыць нас у падпісны каталог на наступны год. Тыднем раней аналагічны адказ быў атрыманы рэдакцыяй ад кіраўніцтва «Белсаюздруку». І тое ж самае было з іншымі незалежнымі выданнямі, чые неаднаразовыя спробы вярнуцца ў дзяржаўную сістэму распаўсюду не мелі поспеху.

І тут з'яўляюцца чуткі пра пэўныя дамоўленасці ўладаў з Еўропай, паводле якіх два

незалежныя выданні павінны вярнуцца ў дзяржаўную сістэму распаўсюду. Тое, што пры гэтым гаварылася толькі пра два выданні, адразу ж насцярожыла: у такі варыянт развіцця падзеяў верылася, бо тыя, хто зрабіў нас «эканамічна немэтазгоднымі», амаль нічога ад нашага вяртання не страчвалі. А гэта азначала, што лёс нашых калегаў заставаўся (і застаецца) няпэўным. Калі ж чуткі матэрыялізаваліся ў канкрэтную прапанову кіраўніцтва «Белпошты» і «Белсаюздруку» даслаць ім неабходныя для ўключэння ў падпісны каталог і вяртання ў шапікі дакументы і калі такія прапановы сапраўды атрымалі толькі «Народная воля» і «Наша Ніва», паўстала пытанне: чакаць вырашэння лёсу астатніх выгнаннікаў ці вяртацца паасобку? Сярод нашых чытачоў у той момант панавалі розныя настроі: нехта казаў, што трэба карыстацца такой магчымасцю не раздумваючы, хтосьці перасцерагаў, што газеты вяртаюць толькі з адной мэтай — дадушыць канчаткова. Рэдакцыя абрала неадкладнае вяртанне. Адзінае, што маглі мы зрабіць для сваіх калегаў, якія засталіся «за бортам», — інфармаваць пра справы іх выданняў нашых чытачоў.




## Сюрпрызы

З’яўленне № 45 (595) «Нашай Нівы» 4 снежня 2008 года ў шапіках ужо само па сабе стала сюрпрызам для яе чытачоў, але не адзіным. Гэта самы што ні ёсць гістарычны нумар, бо ўпершыню за ўвесь час існавання выданне выйшла з каляровымі «рысункамі» і стала менавіта газЕтай, а не газЭтай, бо рэдакцыя вырашыла з гэтага моманту выдавацца «наркамаўкай». Калі наконт пераходу да выкарыстання каляровых здымкаў сумневаў амаль не было, то адыход ад класічнага правапісу, на якім узгадаваўся шмат хто з нашых чытачоў, абяцаў, мякка кажучы, неадназначную рэакцыю з іх боку. Унутры рэдакцыі таксама не было адзінства на гэты конт, аўтар гэтага артыкула, напрыклад, выступаў за захаванне статус-кво, але было прынятае прынцыповае рашэнне. «НН» пераходзіць на школьны правапіс, бо ставіць перад сабой задачу заваёвы новай аўдыторыі. Вяртанне ў кіёскі «Саюздруку» дае такі шанц. Непрызвычаеным людзям чытаць па-беларуску класічным правапісам цяжэй, моцна цяжэй — гэтак абгрунтоўвалася змена правапісу ў рэдакцыйным каментары ў дзень вяртання выдання ў шапікі. Той каментар сабраў больш за дзвесце меркаванняў на сайце nn.by, але эмоцыі даволі хутка і нечакана для нас сціхлі. Магчыма, спрацавала, што хай сабе і неспадзявана, але збылося тое, чаго ўсе мы так доўга чакалі. Да таго ж многія цвердзяць, што ўжыванне класічнага правапісу было памылковым і не спрыяла пашырэнню нашай аўдыторыі. Праверыць апошняе стане магчымым толькі з цягам часу, а мо і пры дапамозе адмысловага даследавання.

І ўсё ж гэта незабыўны момант — калі амаль праз тры гады адсутнасці ў шапіках ізноў з’явілася незалежная прэса. Фотаздымкі «Народнай волі», а пасля і «Нашай Нівы» пасярод іншых выданняў рабіліся навіной і тыражаваліся ў сеціве. І не толькі ў Байнеце. У рэдакцыю тэлефанавалі людзі і расхваляванымі галасамі паведамлялі пра тое, што ў шапіку каля іх дому ці па дарозе на працу ўжо на другі дзень не дакупіцца газеты. Што тут казаць: мяне самога гэтая падзея заспела за мяжой, і, вярнуўшыся дамоў на выходныя, я не стаў чакаць пачатку працоўнага тыдня, каб атрымаць свой рэдакцыйны асобнік, а набыў газету ў шапіку. Як жа нязвыкла і адначасова прыемна было вымавіць: «Нашу Ніву», калі ласка!»

## Што далей?

Выхад з паўпадпольнага стану акрамя змены правапісу і пераходу на колер паставіў перад намі яшчэ некалькі пытанняў. Выдаткі на друк каляровай газеты ў параўнанні з ранейшым варыянтам заўважна выраслі. І хоць наклад абноўленага выдання ад першага ж дня павялічыўся больш

чым у два разы, кошт газеты заставаўся куслівым. Фактычна «НН» зрабілася самай дарагой газетай такога фармату ў шапіках «Белсаюздруку». Тая ж «Камсамолка», у разы «таўсцейшая», у разы ж меней і каштавала. «Народная воля» стартавала з коштам, утрая меншым за наш. Паступовае павелічэнне накладу дазволіла трошкі зменшыць кошт газеты і зрабіць таннейшай падпіску. Дарэчы, пра апошнюю. Патрапіўшы ў каталог «Белпошты», рэдакцыя ўсё адно захавала ўласную сістэму падпіскі, і цяпер чытачы маюць выбар — падпісвацца па-ранейшаму, як прывыклі за апошнія тры гады, або ісці на пошту.

Акрыленыя новымі магчымасцямі, мы распачалі рэкламную кампанію. Хоць «кампанія», мабыць, занадта гучна. Інфармацыю пра нас колькі часу агучвала «Аўтарадыё», рэгулярна прапагандуе «першую беларускую газэту з рысункамі» «Белсат». Спрабавалі мы патрапіць са сваёй рэкламай на сцены вагонаў мінскага метрапалітэну. У рэкламнай службе метро яшчэ ў снежні выказалі згоду, але папрасілі ўзгадніць пытанне з ідэалагічным аддзелам Мінгарвыканкама. Недзе праз месяц адтуль адказалі, што рэкламныя плошчы на студзень у метро адсутнічаюць, і прапанавалі вярнуцца да гэтага пытання ў лютым. І гэта пры тым, што ў той час у вагонах падземкі палова плошчаў пуставала! Зразумела, што пра рэкламу «Нашай Нівы» на бартах мінскіх трамваяў і бігбордах застаецца пакуль толькі марыць.

Акрамя таго, каб разысціся па днях з той жа «Народнай воляй», нам давялося ссунуць дзень выхаду з чацвярга на сераду. Гэта стварыла пэўныя нязручнасці для супрацоўнікаў выдання, але напэўна ж такі паварот парадаваў нашых чытачоў па-за Мінскам, якім цяпер газета даходзіць хутчэй.

## Пра цэнзуру

Як вядома, калі ў чалавека адабраць усё ці амаль усё, то губляць яму ўжо няма чаго. І нехта праз гэта робіцца больш дзёрзкім, смялейшым. Вяртанне ж адабранага, хоць бы часткова (і размова тут найхутчэй пра адабраную свабоду), робіць чалавека больш асцярожным і нават паслухмяным (ану як ізноў забяруць?!). У выпадку з «Нашай Нівай» натуральным ёсць пытанне, ці сутыкнуліся журналісты газеты ды яе рэдактары з праблемай самацэнзуры па вяртанні ў дзяржаўную сістэму распаўсюду. Напэўна, тут варта апеляваць да нашых чытачоў, бо хіба толькі яны ды яшчэ нашыя калегі могуць заўважыць змену стаўлення газеты да вострых ды нязручных тэмаў. Ад сябе магу нагадаць, што нумар, з якім мы вярнуліся ў афіцыйны продаж, выйшаў з бел-чырвона-белым сцягам на першай паласе.

З таго моманту было колькі выпадкаў, якія яскрава сведчаць акурат пра тое, што мы не толькі не пазбягаем вастрыні, але і правакуем абвастрэнне пільнай увагі да нас. У якасці прыкладу можна прывесці загаловак да артыкула на першай паласе, прысвечанага гешэфтам з Расіяй у сферы вайскова-паветранай абароны: «Лукашэнка прадаў беларускае неба». Пазней без пазначэння крыніцы паходжання гэты загаловак усяляк цытаваўся дзяржаўнымі тэлеканаламі ў выніковых праграмах тыдня.

Нагадаю і каментар эканаміста Аляксандра Чубрыка «Лукавыя лічбы» наконт звестак Белстату, на які з сустрэчнай заявай выступіла намесніца старшыні Белстату Алена Кухарэвіч.

Аўтару гэтых радкоў выпаў лёс (ці, калі хочаце, рэдакцыйнае заданне) напісаць пра падазрэнні літоўскіх гісторыкаў і пракурораў што да айца Булькі, святара з Мосара. Гісторыя заблытаная і вельмі няпростая, а зважаючы на тое, што пісалі пра Юозаса Бульку ў менавіта такім кантэксце толькі недзяржаўныя СМІ, капанне ў гэтай тэме хутчэй за ўсё не парадавала ўлады, у тым ліку і касцёльныя.

Пры гэтым мы, безумоўна, памятаем, як лёгка пакрыўдзіць нашага чыноўніка на некалькі тысяч даляраў, варта толькі, да прыкладу, пераблытаць ягонае фота з кімсьці іншым. І не дапаможа тут нішто — друкуйся ты хоць у Доме друку, хоць у Смаленску. Але, унікаючы такіх тэмаў, нялёгка справіцца з задачай павелічэння чытацкай базы.



## Жаўцееце, спадарства. Так трымаць!

Пагаворым пра тое, як адрэагавала на перамены ў «НН» нашая аўдыторыя. Змена правапісу, непакоіліся мы, магла адштурхнуць ад нас частку чытачоў, а вось ці ўдасца пашырыць нашае кола за кошт новых ці хоць бы кампенсаваць магчымыя страты, гэта яшчэ трэба было высветліць на практыцы. Хваляванне было марным: ад падпіскі ў першыя ж дні снежня дэманстратыўна адмовіліся ўсяго некалькі чалавек. Калі казаць пра дзень сённяшні, то, па словах супрацоўніка, які займаецца пытаннямі распаўсюду, колькасць падпісчыкаў пакрысе расце (а заглыбляючыся ў дэталі, можна адзначыць, што перавагу чытачы аддаюць нашай уласнай сістэме падпіскі). Але пры гэтым нельга сказаць, што пытанне гэтае перастала хваляваць людзей: нараканні на адсутнасць мяккіх знакаў ды на сённяшні правапіс газеты час ад часу гучаць у каментарах на сайце выдання, у тэлефанаваннях і рэдакцыйнай пошце.

Яшчэ адной крыніцай раздражнення сталых чытачоў (найперш гэта датычыць наведнікаў сайта) з'яўляецца змена фармату газеты — дрэйф ад падкрэслена элітарнага выдання (а частка чытачоў даўно не лічыць «НН» такой) да больш папулярнага: больш «рысункаў», крыміналу, адным словам, як неаднойчы даводзілася чытаць на форумах, «жаўцізны». Не магу казаць за сваіх калегаў, але, хоць мне асабіста і не падабаюцца пэўныя моманты ў сённяшнім характары газеты, я выдатна разумею, што ніводнае выданне не можа стаяць на месцы. Тым больш што газета не змяняецца незваротна. Вось і ў апошніх нумарах сталі з'яўляцца напаўзабытыя рубрыкі «Гісторыя» і «Падарожжы».

Ёсць і такія чытачы, якія кажуць нам: «Так трымаць!»

## Замест пасляслоўя

Пасля вяртання «НН» у шапікі ў рэдакцыю ў вялікай колькасці сталі звяртацца грамадзяне з усёй Беларусі з просьбамі напісаць пра іхнія праблемы. Раней такога не было, нават да вымушанага сыходу ў падполле. Свае звароты людзі матывуюць менавіта тым, што наша газета недзяржаўная, а таму да яе большы давер. Асабіста мне паводле такіх лістоў і тэлефанаванняў давялося зрабіць ужо не адзін матэрыял. Часта чытачы звяртаюцца да нас з нагоды надрукаванага раней артыкула, які закранаў падобную да іхняй праблему. Такая актыўная зваротная сувязь — безумоўна, адзін з прыкладаў плёну нашага вяртання. І гэта яшчэ раз сведчыць, наколькі важным з'яўляецца вяртанне да нармальнай дзейнасці астатніх незалежных СМІ.



# Есть ли жизнь после обыска?

*Андрей АЛЕКСАНДРОВ,*
*«А» № 2 (70–71), 2008 год*

События дня общереспубликанского «шмона» уже практически перестали быть информационным поводом и потихоньку уходят из медиапространства. Но — не из жизни людей, в чьи двери утром 27 марта постучали нарочито вежливые товарищи с красивыми удостоверениями в красных «корках». Офицеры госбезопасности, уверяя, что «ничего личного — просто работа такая», проводили обыск — у меня и моих коллег-журналистов по всей стране.

Было ли страшно? Нет. Было неприятно. Согласитесь, не много радости испытываешь, когда посторонние люди копаются в твоих вещах.

Пытался ли сопротивляться? Я — нет. Люди ведь предъявили документы. Конечно, рассказывать им, что презентационный диск



***Обыск на рабочем месте заместителя главного редактора Светланы Калинкиной в редакции газеты «Народная Воля», г. Минск , 16 марта 2010 года***

Очень точно описала это состояние в своем блоге Янина Мельникова, с которой нам пришлось вместе пережить эти три неприятных часа обыска и допроса. «У нас забрали НАШЕ! Все наше… Все наши тексты! Всю нашу работу! Да что там работу, она не кончается завтра, ее всегда будет много! У нас больше нет тысяч личных фотографий, бережно сохраняемых в папочках-файлах… Нашей Варшавы, нашего Гданьска, нашего Кракова и Киева. Нет веселого, потрясающе смешного видео с нашими котами, новогодних плясок мужчин в колготках! Нет классных презентаций, которые делали в подарок своим друзьям (простите, други, теперь их смотрят в КГБ)… Сижу перед девственно чистым компьютером, судорожно пытаясь не забыть все смененные в одночасье пароли и явки… Вот он — шанс начать новую жизнь…»

Европейского гуманитарного университета не имеет отношения к каким-то мультикам на «Белсате», было бесполезно. Кроме санкции и предписания, у них явно были и устные распоряжения — что брать, на что обращать внимание, какие вопросы задавать.

Единственное, о чем я их попросил, практически давясь смехом, — не забирать тексты диктантов по белорусскому языку, которые я и мои самые близкие друзья написали у меня дома 23 марта. «Да ладно, там разберутся», — ответили мне слегка смущенно, но безапелляционно. «Может, заодно и проверят», — выразил надежду я.

Так что сопротивляться я не стал. Сопротивляться стали… мои коты. Они старательно путались под ногами у сотрудников КГБ и производили провокационные маневры, затеяв беготню по квартире (и это во время обыска-то!).

Потом кошка Кася пыталась утащить под диван пакеты, в которые упаковывали изъятые у нас жесткие диски. А кот Мартин, до этого отличавшийся исключительной общительностью и приветливостью, без малейшего зазрения своей кошачьей совести цапнул за палец офицера госбезопасности (как страшно звучит-то!), когда тот попытался его погладить… Короче, оказали сопротивление…

Самое ужасное было потом. Через пару дней пришло осознание того, что нас… обокрали! В буквальном смысле!

Новые «девственно чистые» жесткие диски наших компьютеров действительно можно считать иллюзией «начала новой жизни». Но лишь иллюзией. Ведь уже через два дня после обыска мы начали наполнять эти новые диски тем же, чем наполняли старые, — текстами, фотографиями, видеоматериалами для нашего сайта…

Не скажу даже, что нам понадобилось время, чтобы приходить в себя. Мы продолжаем делать то, что считаем правильным, — заниматься профессией, которую когда-то для себя избрали. Просто делаем мы это в стране, где происшедшее 27 марта является частью этой профессии. Против этого можно протестовать — но с этим фактом приходится считаться. Как и с тем, что власти делают для дискредитации страны гораздо больше, чем те люди, которым «шьют» подобные статьи Уголовного кодекса.



# Таццяна Смоткіна:

## «Ніколі не шкадавала, што стала сябрам незалежнай журналісцкай арганізацыі»

### Выбар

**Часта знаёмыя кажуць, што мне пашанцавала з прафесіяй, бо я заўжды там, дзе адбываецца нешта цікавае.**

Калі маёй дачцэ споўнілася восем месяцаў (зараз ёй ужо 14 гадоў), я адчула, што маё жыццё з яго паўсядзённымі і шматлікімі клопатамі, аднак без творчай працы і стасункаў з цікавымі людзьмі, сталася крыху сумным, бескаляровым. І я вырашыла знайсці падпрацоўку, хаця грошы ў той час для мяне не мелі вырашальнага значэння. Таму што выхоўваць немаўля мне дапамагалі родныя браты і бацькі, бо ў нашай сям'і гэта была першая ўнучка і пляменніца. Так у мяне з'явіўся час, каб скарыстаць свой творчы патэнцыял.

Аднойчы я прачытала абвестку ў газеце «Вольнае Глыбокае», што рэдакцыі патрэбны карэктар. У мяне філалагічная адукацыя, таму вырашыла паспрабаваць. Мяне запрасілі на сумоўе, дзе я прайшла творчае выпрабаванне. Так пачалося супрацоўніцтва з першым у маім жыцці незалежным СМІ. Неўзабаве рэдактар газеты Уладзімір Скрабатун прапанаваў мне пісаць артыкулы, рабіць апытанні з жыхарамі Глыбоччыны, рэпартажы ды іншае. Усяму вучылася ў сваіх старэйшых калег, штосьці асвойвала самастойна. І вось у маім жыцці з'явілася Беларуская асацыяцыя журналістаў, грамадская арганізацыя, дзе з дапамогай розных адукацыйных праграм ды семінараў вучылі журналістаў-пачаткоўцаў азам прафесіі.

### БАЖ у маім жыцці

Адпрацаваўшы год у «Вольным Глыбокім», я ўступіла ў БАЖ, а праз некаторы час мяне абралі кіраўніком рэгіянальнай суполкі нашай асацыяцыі.



Часта знаёмыя кажуць, што мне пашанцавала з прафесіяй, бо я заўжды там, дзе адбываецца нешта цікавае. Што часта сустракаюся з разумнымі, ініцыятыўнымі, таленавітымі людзьмі. Але ў той жа час яны зазначаюць, што цяпер адкрыта выказваць свае думкі небяспечна, бо можна пацярпець з гэтай прычыны. Маўляў, сённяшняя сістэма не любіць крытыкі, альтэрнатыўных меркаванняў ды вальнадумства. Тут могуць узнікнуць праблемы не толькі на працы, але і ў асабістым жыцці. І не толькі тваім — родныя, блізкія і сябры таксама могуць пацярпець. Безумоўна, калі я выбірала незалежную журналістыку, то ўсё гэта добра ўсведамляла. Даўно вядома, што дзейнасць беларускай ідэалагічнай вертыкалі ды сілавых структур скіравана на запалохванне людзей, на задушэнне любой, нават самай бяскрыўднай і далёкай ад палітыкі, ініцыятывы, калі гэтая ініцыятыва вымагае хоць нейкіх перамен.

Такім чынам, сённяшняя палітычная сістэма культывуе бязвольнае, спажывецкае грамадства, дзе людзі мусяць успрымаць «чарку ды шкварку» як найвялікшую ласку і больш ні пра што не думаць. Бо «думаюць» за іх малыя і вялікія «вертыкальныя» начальнікі.

Мне ж, аднак, заўжды імпанавала пазіцыя людзей, якія адкрыта









выказвалі свае думкі, адстойвалі справядлівасць, не крывілі душой і маглі пастаяць не толькі за сябе, але і за іншых. Толькі такім чынам выяўляецца годнасць кожнага чалавека паасобку, а ўвогуле — моц і згуртаванасць народа. Як гэта было, напрыклад, у Польшчы, дзе з'явіўся грамадскі рух «Салідарнасць».

Менавіта людзей годных, адкрытых, прафесіяналаў сваёй справы я і сустрэла ў грамадскім аб'яднанні «Беларуская асацыяцыя журналістаў». Гэтая арганізацыя не толькі дапамагла мне ўдасканаліць свае прафесійныя навыкі, але і загартавала духоўна, што дало веру і большую ўпэўненасць у заўтрашнім дні. Я заўсёды ведала і ведаю, што я не адна.

## Пра КДБ і любоў без адказу

Я каталіцкага веравызнання. І, зразумела, маю жыццёвыя прынцыпы, ад якіх стараюся не адыходзіць. Здаўна засвоіла, што за ўсё дрэннае, нават за няшчырыя словы, давядзецца плаціць. Таму стараюся, каб за свае ўчынкі не было сорамна як у асабістым жыцці, так і на працы.

Аднак падзеі, з якімі мне давялося сутыкнуцца ў апошнія гады, мяне проста абураюць. Мая журналісцкая дзейнасць, як і праца нашай рэгіянальнай суполкі, пачала вельмі цікавіць супрацоўнікаў мясцовага КДБ. А найбольшая цікавасць з боку гэтай сілавой структуры выяўляецца, як правіла, напярэдадні выбараў ці якіх іншых грамадска значных падзей. Супрацоўнікі КДБ, напрыклад, могуць сабе дазволіць мужам маіх сяброўак параіць, з кім іх каханым можна сябраваць, а з кім — не пажадана. Смеху варта, але мясцовыя «контрразведчыкі» надта цікавяцца, каго з творчых людзей мы запрашаем у Глыбокае, з кім сустракаемся і п'ем каву. А яшчэ супрацоўнікі КДБ — нашы пастаянныя «чытачы», бо заўсёды ведаюць пра ўсе нашы мерапрыемствы. Найбольш смелыя нават заходзяць да нас, каб паглядзець, паслухаць, а потым,

зразумела, напісаць «справаздачу». Толькі пра што? Мы працуем адкрыта і нічога супрацьзаконнага не робім.

Без афіцыйнай позвы, прыдумляючы розныя прычыны, яны заманьваюць у «кантору» нашых сяброў, калег, а потым адбываецца псіхалагічны ціск, іх схіляюць да супрацоўніцтва. І такая «любоў» без адказу працягваецца дагэтуль.

Я не перастаю здзіўляцца: здаровыя, прыгожыя і, здаецца, не дурныя мужыкі, а займаюцца… Ці няма сапраўды сур'ёзных спраў, больш важных для грамадства ды дзяржавы? Няўжо так усё дрэнна ў нашай «стабільнай» Беларусі, што незалежныя журналісты, як і некаторыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, тояць у сабе такую небяспеку?

Аднойчы знаёмы настаўнік распавёў мне гісторыю, як падчас папярэдняй прэзідэнцкай кампаніі адмовіўся працаваць у мясцовай выбарчай камісіі. Калі пра гэта даведаўся тагачасны кіраўнік раённага аддзела адукацыі, то сказаў, што гэта «ненадзейны настаўнік». Вось вам і выдаткі «адзіна правільнай ідэалогіі», сістэмы, якая вымагае дзяліць людзей на «надзейных» і «ненадзейных», на «сваіх» і «чужых». Відавочна, што так ставяцца і да журналістаў.

Аднак любую сістэму ствараюць людзі. І ў першую чаргу — тыя, хто пры ўладзе. Якія ў іх жыццёвыя прынцыпы, перакананні, сумленне (калі яно ўвогуле ёсць) — такі і дзяржаўны лад, то бок сістэма.



***На Змітра Лупача і Таццяну Смоткіну завялі справы паводле артыкула 22.9 ч. 2 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях***

Нядаўна карэспандэнт мясцовай газеты паведаміў, што на мяне і майго калегу Змітра Лупача паводле артыкула 22.9 ч. 2 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях завялі справы. Маўляў, самі вінаватыя, «няма чаго падстаўляцца, трэба быць хітрэйшымі». Што ён меў на ўвазе пад словамі «падстаўляцца» і «быць хітрэйшымі»? Мабыць, не даваць аб'ектыўную інфармацыю, не звяртаць увагі на скаргі простых людзей, якія расказваюць пра свавольства ды абыякавасць мясцовых чыноўнікаў, не канстатаваць відавочныя факты безгаспадарчасці і непрафесіяналізму і г. д. А «быць хітрэйшымі» — гэта, мабыць, навучыцца ліслівіа прагінацца, аддана зазіраючы ў вочы начальнікаў, ды ўсяляк падлабуньвацца. Вось такая халуйская «навука». І бяруць жа яе некаторыя на ўзбраенне, ім не брыдка!

А калісьці гэты журналіст адкрыта пісаў крытычныя артыкулы… Некалькі гадоў працы ў дзяржаўнай газеце, некалькі гадоў спакойнага, бясклапотнага жыцця — і чалавека не пазнаць. Бюджэтная «булка з маслам» зрабіла сваю справу…

Бюджэтныя грошы, як вядома, выдзяляюцца і на ўтрыманне сілавых структур. То бок мы з вамі плацім падаткі, каб ахоўвалі наш спакой, маёмасць, баранілі нашы грамадзянскія правы і свабоды. Між іншым, паводле Канстытуцыі ды іншых заканадаўчых актаў. Я ўжо не кажу пра прысягу, дзе ўсё гэта таксама прапісана. І гэта нармальна. Не нармальна толькі тое, што ў гэтых структурах адбыўся працэс падмены функцый, які пачаўся гадоў пятнаццаць таму. Зразумела, нічога добрага з гэтага не атрымаецца.

Сярод маіх родных таксама быў далёкі сваяк, які ў пасляваенныя часы займаў не апошнюю пасаду ў сістэме дзяржбяспекі. Але ён ніколі не дазваляў сабе апускацца да таго, каб запалохваць ды цкаваць простых людзей толькі за тое, што яны маюць уласнае меркаванне пра тыя ці іншыя сацыяльна-палітычныя падзеі. Магчыма, таму, што быў чалавекам адукаваным, інтэлігентным, які меў афіцэрскі гонар і даражыў ім. А, можа, таму, што ён і яго калегі займаліся больш глабальнымі, сур'ёзнымі справамі — харчовай, эканамічнай, ваеннай ды тэрытарыяльнай бяспекай краіны.

Чыстае сумленне — вялікая каштоўнасць, больш важная за матэрыяльныя выгоды ды прыстасаванства.

Я ніяк не магу ўцяміць, як можна ісці на кампраміс з уласным сумленнем служывым людзям ці суддзям. Адны прыдумляюць байкі пра «шпіёнскія змовы», адсочваюць кантэнт у інтэрнэце і збіраюць на журналістаў «кампрамат». Другія заводзяць адміністрацыйныя ці, як было зусім нядаўна, крымінальныя справы, трэція — судзяць. За тое, што мы расказваем пра жыццё так, як яно ёсць. І будзем расказваць.

У народзе кажуць, што праўда ў вадзе не тоне і ў агні не гарыць. Я ў гэта калісьці паверыла. Паверце ў гэта і вы — і жыць стане нашмат прасцей.

А галоўнае — будзеце спаць спакойна, і не толькі таму, што заплацілі падаткі.

Бо, акрамя жорсткай аўтарытарнай сістэмы і КДБ, на свеце ёсць вышэйшая справядлівасць — больш моцная і высакародная.



# Мае ўрокі

**У тым, што я стаў журналістам, ёсць таксама і заслуга чалавека, які хоча быць вечным прэзідэнтам. Але я — грамадзянін краіны, і я маю права крытыкаваць нашу ўладу тады, калі выплачваю дзяржаве падаткі.**

*Зміцер ЛУПАЧ, Глыбокае*

Зараз мне цяжка прыгадаць, калі я стаў сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў, — у 2000-м ці 2001-м. Хутчэй за ўсё, у 2001-м. Было гэта яшчэ ў тыя часы, калі Жанна Літвіна была прэзідэнтам. Так тады называлася пасада кіраўніка БАЖ. Але аднаму чалавеку захацелася так, каб прэзідэнтам у гэтай краіне быў толькі ён.

Трэба адзначыць, у тым, што я стаў журналістам, ёсць таксама і заслуга чалавека, які хоча быць вечным прэзідэнтам. Пасля рэферэндуму 1996 года я быў вымушаны звольніцца з працы і пайсці, як кажуць усходнія суседзі, «на вольные хлеба».

Папрацаваць давялося за гэты час шмат дзе, але я ўдзячны лёсу, што стаў журналістам.

Першая газета, з якой я пачаў супрацоўнічаць, — «Вольнае Глыбокае». Мы пачалі сябраваць з самага першага нумара! Праўда, я дапамагаў толькі ў распаўсюдзе. Але неўзабаве за свой першы артыкул я атрымаў і свой першы «ганарар» — ад глыбоцкага пракурора. Было гэта пракурорскае папярэджанне за тэкст, у якім я заклікаў выбаршчыкаў не ісці на датэрміновае галасаванне.

Праўда, пісаў я ў газету тады не так часта, быў гэты занятак для мяне як хобі. Ніхто за маю пісаніну тады не плаціў, проста было цікава: ты нешта напісаў — і цябе надрукавалі.

Сітуацыя змянілася ў 2001 годзе, калі я ўступіў у Беларускую асацыяцыю журналістаў. З'явілася магчымасць наведваць адукацыйныя семінары, нечаму навучацца ад калегаў. Вялікую ролю ў маім станаўленні як журналіста адыграў калега з Паставаў Алесь Касцень. Працавалі мы тады разам у «Вольным Глыбокім», і менавіта пад уплывам Алеся я стаў пісаць у газету рэгулярна. Як старэйшы і больш дасведчаны сябра, Алесь падказваў, як лепш скласці расповед, выпраўляў мае памылкі. Але рабіў гэта вельмі далікатна, стараўся не пакрыўдзіць. Шмат што з тых урокаў я памятаю і выкарыстоўваю да сённяшняга дня.

На жаль, у 2009 годзе Алесь Касцень заўчасна пайшоў з жыцця. Было гэта 17 верасня, якраз у дзень, калі адзначалася 70-годдзе «вызвалення» Заходняй Беларусі ад польскага прыгнёту. Па злой іроніі лёсу, акурат у гэты дзень выйшаў першы нумар рэкламнай газеты «Прэфект-інфо», у якой я быў галоўным рэдактарам. Менавіта ад гэтага дня я лічу сябе журналістам-прафесіяналам. Прафесіяналам таму, што ад гэтага часу я стаў зарабляць сабе на жыццё журналістыкай.

Пра прафесійную журналістыку хочацца сказаць асобна. Чамусьці дзяржаўныя чыноўнікі лічаць, што прафесійным журналістам можа быць толькі той, хто скончыў журфак нашага Дзяржуніверсітэта, назваць які беларускім язык не паварочваецца. Вось і нядаўна ў глыбоцкім судзе суддзя Людміла Вашчанка, калі выносіла прысуд маёй калезе

Таццяне Смоткінай, дапыталася ў яе пра адукацыю. Калі пачула, што яна філолаг, адзначыла: няма ў вас, маўляў, журналісцкай адукацыі. Падумалася: калі паглядзець на наш кіраўнічы апарат — як на раённым узроўні, так і на абласным, а мо і на самым вышэйшым, — няма ў нас іншых «кузняў» кадраў, акрамя Вялікалукскага сельскагаспадарчага інстытута і Беларускай сельгасакадэміі. Закончыўшы гэтую акадэмію, наогул можна больш за два дзесяцігоддзі кіраваць краінай! З такога пункту гледжання, з адукацыяй у мяне ўсё ў парадку: у 1992 годзе згаданую навучальную ўстанову скончыў і я.

Працу ў рэкламнай газеце «Прэфект-інфо» не магу абмінуць добрым словам. Калектыў у нас быў невялікі, усяго тры чалавекі. Але гэта быў перыяд, калі ці не ўпершыню ў маім жыцці я, прачынаючыся раніцай, хацеў ісці на працу. Вядома, пісаць на грамадска-палітычныя тэмы ў гэтай газеце не выпадала, але рэалізавацца ў «сапраўднай» журналістыцы дапамагала фрылансерства. Пра ўсё, што хвалявала ў той момант, можна было пісаць не ў «сваю рэкламку» — у іншыя выданні.

«Прэфект-інфо» праіснавала больш за чатыры гады, мне не хапіла трох месяцаў да пяцігадовага стажу галоўнага рэдактара. Газета перастала выходзіць не па нашай віне, а з прычыны пастаяннага ціску з боку ўладаў. Як толькі ў краіне праходзіла чарговая выбарчая кампанія, газета мусіла сплачваць штраф за нейкія «парушэнні». Перад мясцовымі выбарамі 2014 года, ведаючы пра мой намер удзельнічаць у так званых выбарах, газету прэвентыўна аштрафавалі за парушэнні закона аб рэкламе. Таму, на жаль, выхад «Прэфект-інфо» быў спынены.

Яшчэ працуючы ў газеце, я зарэгістраваўся прыватным прадпрымальнікам. Пасля закрыцця рэкламнай газеты працую як прадпрымальнік і да гэтага часу. На жаль, у нашай дзяржаве нельга зарэгістравацца журналістам-фрылансерам. Год я працаваў як фатограф, зараз — відэаапаратар.

Я наіўна лічыў, што, як грамадзянін гэтай краіны, маю поўнае права крытыкаваць нашу ўладу тады, калі выплачваю дзяржаве падаткі. Але гэта я так лічыў, дзяржава так не лічыла. Тых мільёна трыста тысяч рублёў, што я плачу кожны месяц у дзяржаўны бюджэт, некаму з дзяржаўных чыноўнікаў падалося мала, і падатковая вырашыла праверыць мае прыбыткі і выдаткі за чатыры гады. У выніку праверкі атрымаў штраф больш як на 8 мільёнаў рублёў. Пазней, праўда, высветлілася, што аштрафавалі мяне не за фінансавыя парушэнні, а за крытыку раённай улады.

Але дзяржаве і гэтага падалося мала — праз пэўны час глыбоцкі суд аштрафаваў мяне яшчэ на чатыры з паловай мільёны за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.

Я, канечне, выплачваю, але разважаю: стаўленне дзяржавы да прадпрымальнікаў у нас вельмі дзіўнае. Калі браць нашых заходніх суседзяў — напрыклад, Польшчу, — дык там да прыватнікаў ставяцца, як добры гаспадар да каровы: калі яе дагледзець, то можна і цэлую гадзіну даіць. У нас жа стасункі нагадваюць стаўленне ваўка: трэба дойную карову адразу зжэрці, а там — трава не расці.

Вядома, ва ўсім гэтым вінаватая палітыка, якой у нас прасякнутае ўсё жыццё. Сядзі ціха, як у тым анекдоце, не «гаўкай», давай на лапу, каму трэба, тады жыць табе дадуць больш-менш спакойна. Але ж ці надоўга? Бо апетыты ў чыноўнікаў таксама растуць. Таму і душаць тых людзей, хто мае нейкую сваю пазіцыю. Якія, хоць нічога не просяць у дзяржавы, нічога ў яе не крадуць, ды яшчэ і плацяць у дзяржаўны бюджэт, — крытычна ставяцца да негаспадарчага кіравання.

Пра крадзяжы хочацца сказаць асобна, бо крадуць на дзяржпрадпрыемствах — пачынаючы ад самага нізавога ўзроўню і вышэй — у залежнасці ад пасады. А судзяць тых, хто ўзяў больш, чым належыць па рангу. Нідзе гэты паказчык — колькі можна ўзяць — не прапісаны, але ўсе яго вельмі тонка адчуваюць. Мая журналісцкая праца вымусіла прыйсці да такой высновы, бо не адно прызнанне пачуў — часцей, праўда, ад пакараных за драбязу «стрэлачнікаў».

Але ўжо хопіць пра ўладу і яе мясцовыя праявы. У юбілей мне хочацца спыніцца на нашай арганізацыі — Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Па-першае, я ўдзячны ёй за тое, што атрымаў журналісцкія веды. Бо дзякуючы адукацыйным праграмам БАЖ я шмат чаму навучыўся і вучуся цяпер. Тое, што мяне сёлета двойчы аштрафавалі дзяржаўныя органы, лічу прызнаннем маіх журналісцкіх заслуг.

Па-другое, я ўдзячны нашай арганізацыі за салідарнасць, якую дэманструюць калегі, калі каго-небудзь з нас пераследуюць. Так было ўвесь час, калі я быў сябрам гэтага аб'яднання, але асабліва для мяне гэта выявілася сёлета, калі мною зацікавіўся КДБ, — распавяду пра абставіны ніжэй.

І па-трэцяе, Беларуская асацыяцыя журналістаў наогул — як вялікая сям'я. Гэта адчуваецца і тады, калі прыязджаеш у наш офіс, дзе з парогу табе прапануюць кавы ці гарбаты, а потым выслухаюць, распытаюць, падкажуць і дапамогуць вырашыць праблему. Вельмі прыемна, калі выпадкова спаткаеш сваіх калег за мяжой — мы сустракаемся сапраўды не як сябры адной арганізацыі, а як вельмі блізкія людзі. Асабліва выяўляецца сямейны характар нашай арганізацыі на БАЖынках, у якіх я ўдзельнічаў сёлета ўпершыню і, прызнаюся, пашкадаваў, што раней прапускаў такія мерапрыемствы. Калі дасць Бог, у наступныя гады абавязкова буду!

Некалі, недзе дзесяць гадоў таму, я быў сябрам адной палітычнай партыі. Здарылася, што пасля двух месяцаў працы ў Польшчы вяртаўся дадому. Дабраўся да Мінска і адразу паехаў у партыйны офіс, каб даведацца, што робіцца ў краіне. Бо не было тады такога інтэрнэту, як цяпер, ды і мабільніка тады ў мяне яшчэ не было. У партыйным офісе сядзеў нейкі дзядзька, які сустрэў мяне прыкладна так: «Каго вам трэба? Асабіста мне вы не патрэбныя». «Хачу даведацца, што робіцца ў краіне», — сказаў я. Дзядзька буркнуў: «Вунь на стале газеты, пачытай». І сам зноў утаропіўся ў экран ноўтбука. «Што ж ён там такое важнае робіць?» — зацікавіўся я. Зірнуўшы, пабачыў, што ён упарта імкнецца раскласці «павука». Пасля гэтага быць сябрам той партыі ў мяне знікла ўсялякае жаданне. Асабліва калі даведаўся, што ў той дзень памёр Васіль Быкаў, у офісе пра гэта павінны былі ведаць, але мне не паведамілі.

Дык вось, у БАЖ так ніколі не робяць і, спадзяюся, ніколі так не зробяць.

Асобна хачу адзначыць дапамогу БАЖ у маёй справе з КДБ, хаця мне ўсё ж лепш называць іх КГБ. Бо прадстаўляюць яны інтарэсы, на мой погляд, не дзяржавы, а «государства», не трэба доўга думаць — якога. Дык вось, напрыканцы чэрвеня мяне выклікалі ў раённы аддзел міліцыі, дзе паведамілі, што супраць мяне распачатая адміністрацыйная справа за працу без акрэдытацыі на замежныя СМІ. І ў гэты ж дзень мяне выклікалі ў фінансавую міліцыю па маёй справе з падатковай. Супрацоўнік гэтай установы пагутарыў са мной хвілін сем, папярэдзіў, каб надалей я не парушаў заканадаўства. Як толькі ён выйшаў, у кабінет забеглі два чалавекі — менавіта забеглі, а не зайшлі, прадставіліся супрацоўнікамі контрвыведкі з Мінска і распачалі са мной ці то гутарку, ці то допыт больш як на дзве гадзіны.



*Мая сям'я: усё разумеюць і падтрымліваюць*

Іх цікавіла амаль усё: дзе я пазнаёміўся з польскім грамадзянінам, з якім размаўляў падчас яго прыезду ў Беларусь (а раптам ён шпіён і хоча выведаць нашы сакрэты?); з якой мэтай два разы ў гэтым годзе ездзіў ва Украіну; як і дзе пазнаёміўся з супрацоўнікамі Белсата, і шмат што яшчэ.

Думаю, мае паводзіны там былі не зусім правільныя… Але ж не кожны дзень размаўляеш з супрацоўнікамі такой установы! Дый прыйшоў я туды не падрыхтаваны — ішоў жа ў фінансавую. У выніку я быў вымушаны падпісаць паперу, што папярэджаны па артыкуле за «дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь». Хаця хто яе больш дыскрэдытуе — пытанне рытарычнае. Яшчэ мяне «папрасілі» напісаць, што яны мяне тут не катавалі і мне не пагражалі. Вядома, мяне ніхто там не біў, пальцы ў дзверы не заціскаў, нават словамі адкрыта не пагражалі. Але ўсё было з намёкамі: а ў цябе дачка за мяжой вучыцца, а мы яе не выпусцім, а жонка ў цябе афіцыйна не працуе, і гэтак далей. І тады: ты ж ведаеш, што мы можам зрабіць. А што — не кажуць, чалавек сам павінен здагадацца. А ў тваёй галаве пракручваецца самы найгоршы сцэнар… Пра гэтыя метады я ведаў, але адна справа, калі гэта адбываецца з некім іншым, а другая — калі гэта робяць з табой.

Нават кватэрай мяне папракнулі: маўляў, дзяржава табе за капейкі яе дала, а ты тут… Так, сапраўды, я пабудаваў кватэру па льготным крэдыце як шматдзетны бацька. І нічога дрэннага тут не бачу: у мяне трое ўжо амаль дарослых дзяцей, якія будуць працаваць у гэтай дзяржаве, а дачка ўжо працуе. І будуць зарабляць на пенсію тым, хто не працуе зараз. Таму, калі дзяржава мне ў нечым і дапамагла, то потым і атрымае з маёй сям'і. А ў выпадку са мной — ужо атрымлівае ў выглядзе штрафаў. А колькі кватэр пабудавалі начальнікі па льготных крэдытах? Некаторыя паспелі і па дзве пабудаваць ды прадаць, але гэтага нашы слаўныя органы не бачаць.

Гутарка з мінскімі «гасцямі» скончылася тым, што мяне перадалі ў рукі нашых, мясцовых, гэбістаў. Яны намякнулі, што могуць дапамагчы вырашыць мае праблемы, але ўзамен патрэбна мая дапамога. Якая — тлумачыць не трэба. Вядома, пра тое, каб быць стукачом, не магло быць і гаворкі, але хацелася хутчэй ад іх вырвацца, і я сказаў, што падумаю.

Думаць не было чаго, я цвёрда вырашыў на наступнай сустрэчы адмовіцца. Увесь гэты час мне было не па сабе, нават словамі цяжка апісаць той стан, у якім я знаходзіўся. Жонка пра «сур'ёзную» размову не ведала, але заўважыла, што на маёй галаве раптам пабалела сівых валасоў. Па сваёй наіўнасці я думаў, што адмоўлюся пры сустрэчы ад усіх слізкіх прапаноў — і ніхто пра такія не будзе ведаць. Але не тут было! Гэтыя людзі проста так ахвяру са сваіх кіпцюроў не выпускаюць. І нармальнай гутаркі наступным разам у нас не атрымалася. Супрацоўнік зноў пачаў казаць мне, што яму патрэбна інфармацыя, што ў мяне могуць быць праблемы. І прапанаваў праз некаторы час сустрэцца — зразумела, каб я «адпрацаваў». У той жа дзень я вырашыў не толькі распавесці пра гэта калегам, але і агучыць інфармацыю публічна. Дагэтуль чакаю пагроз, хвалююся, што нешта дрэннае можа здарыцца са мной і з сям'ёй і зараз, але на душы стала лёгка.

Таму хачу даць параду калегам: калі некаму з вас, барані Божа, давядзецца з падобным сутыкнуцца, то не трэба пра гэта маўчаць. Такую інфармацыю, нягледзячы на ўсе пагрозы, трэба агучваць.

Мы пераможам, бо з намі — Праўда.

А БАЖ, якой ужо ажно 20, раю праводзіць больш творчых конкурсаў, мерапрыемстваў, якія заахвочваюць сяброў. Бо мы, незалежныя журналісты, пастаянна адчуваем на сабе ціск з боку дзяржавы, нас увесь час бэсцяць у дзяржаўных СМІ, судзяць, штрафуюць. І надыходзіць прафесійная стома — як у следчага, які ў кожным чалавеку бачыць злачынцу. Так і мы пачынаем лічыць свае спагнанні за прызнанне нашых заслугаў. А кожнаму чалавеку ж хочацца, каб хоць недзе яго адзначылі з дадатнага боку. Гэта было б прыемна і для яго сям'і. Мы ж усе жывыя людзі і любім, калі нас у нечым вылучаюць.

Віншую Беларускую асацыяцыю журналістаў з юбілеем, жадаю ўсім творчага плёну, каб здзейснілася тое, дзеля чаго мы ўвесь час працуем.

# От Бреста к Бресту —



*Николай АЛЕКСАНДРОВ*

*Фото Ирины ШЕПЕЛЕВИЧ*

## Вы знаете, сколько на земле Брестов? Мы пытаемся разыскать все.

В прошлом 2014 году группа брестских энтузиастов предприняла автопутешествие по городам и селениям с именем Брест, расположенным в Польше, Германии, Франции и Чехии. Это была своего рода инициатива «народной дипломатии», поддержанная Брестским горисполкомом. Более того — в мэрии тогда родилась идея создания Ассоциации всех Брестов к 1000-летию нашего города.

Тот автотур был весьма результативным. По всему маршруту передвижения группа белорусов встречалась с руководителями муниципалитетов и городов, с общественностью населенных пунктов с именем Брест. Кульминация автопохода состоялась в городе-побратиме, французском Бресте. А по итогам автопутешествия был опубликован ряд очерков-фоторепортажей в «Брестском курьере», проведены фотовыставки в Генконсульстве Республики Польша в Бресте и Брестском городском исполнительном комитете.

В нынешнем году эту инициативу взяла под свое крыло редакция «Брестского курьера», организовав пресс-тур по южному европейскому маршруту с посещением населенных пунктов с именем Брест.

## Лебеди в дорогу…

…Утром в понедельник 11 мая от Свято-Николаевского гарнизонного храма Брестской крепости отправилась в двухнедельное путешествие по европейским городам с названием Брест команда из семи человек. В церемонии проводов участвовали главы размещенных в Бресте консульских представительств, путешественников благословил в дорогу отец Николай Кудласевич, духовный наставник проекта.

Звучало немало добрых напутственных слов, но укрытое тучами небо вдруг подарило нам символ: над Холмскими воротами поплыла стая белых лебедей. И вскоре сизое небо над Брестом стало проясняться, а пока мы миновали белорусско-польскую границу, — и вовсе распогодилось.



*Семерка брестчан перед отъездом*

В движении по намеченному маршруту позабылись предотъездные хлопоты и волнения. А их было немало. Чего стоил хотя бы поиск финансов на реализацию проекта: путь неблизкий — в 5 500 км туда и обратно — требовал топлива для буса, оплаты проезда по трассам. Плюс проживание-питание «великолепной семерки», не страдающей отсутствием аппетита, сувениры и подарки для брестчан других стран, изготовление униформы (куртки с символикой) и т. д. Спасибо, что проект финансово поддержали СП «Брестгазоаппарат», Почетный консул Франции Леонид Стаецкий и Почетный консул Чехии Владимир Микулич. Впрочем, даже при этой поддержке намечался жесткий режим экономии в пути — в бус легли палатки, спальники, различные туристские приспособления для ночлегов не в отелях, а под открытым небом. Решили готовить большей частью сами, закупая по пути следования необходимые продукты.

Немало нервов, времени и опять же финансов отняли на предварительном этапе согласование всех вопросов с принимающими сторонами, переписка и телефонные разговоры, которыми занимались члены команды Ирина Шепелевич и Александр Беспалов. С помощью Брестского горисполкома, партнера проекта, к реализации

# – по балканскому маршруту

BREST

БРЕСТ ОБЪЕДИНЯЕТ

**Путевой дневник пресс-тура газеты «Брестский курьер»**




*Маршрут нашей команды*

задуманного были подключены Министерство иностранных дел РБ, дипломатические представительства в странах по нашему маршруту.

…Трасса хорошо стелется под колесами буса, небо уже совершенно ясное, команда занята дорожными разговорами. До Варшавы с нами едут батюшка о. Николай Кудласевич и наш друг Анджей Махновский, польский коллега, снимавший на камеру церемонию нашего отбытия. В прошлом году Махновский участвовал в первом этапе проекта, проехав с группой от Бреста белорусского до Бреста французского.

Мы разговорились с Тарасом Юркевичем — бард везет с собой гитару, она, конечно же, прозвучит и в Чехии, и в Сербии, и в Албании, и в Македонии, и в Болгарии, куда мы направляемся. С Тарасом у нас немало общих интересов и тем для беседы.

Во-первых, Брестский драмтеатр, в котором он работает и которому добрую половину жизни отдал его отец, актер Сергей Юркевич. Звания «заслуженный артист БССР» Юркевич ждал долго — судя по всему, из-за того, что в анкетной графе «социальное происхождение» указал: «Из дворян».

Во-вторых, авторская песня, в которой Тарас — большой дока и авторитет. Мы с ним затеваем на октябрь нынешнего года первый международный фестиваль авторской песни имени Владимира Высоцкого в Бресте. Проект серьезный, ответственный, не хочется ударить в грязь лицом. Обнадеживает, что к этому очень заинтересованно отнесся мэр Бреста Александр Рогачук.

За разговорами въезжаем в польскую столицу. Водитель наш Андрей Кривовяз, хозяин буса, человек с юмором, бросает Анджею с досадной мрачностью: «Я бы ваши светофоры расстрелял!» Да, они тут изрядно нервируют наших белорусских водителей, переключаясь с зеленого на красный без предупреждающего желтого.

За Варшавою трасса под колесами разматывается, постепенно расширяясь. Ведет она на Вену, но нам пока что туда не надо. Мимо пробегают аккуратные поля и фермы, замершие без ветра крылья гигантских электрогенераторов. Кое-где примечаем косуль. Проезжаем Ченстохову, заправляемся под завязку дизтопливом неподалеку от чешской границы. А пересекаем ее, даже и не заметив каких-либо знаков в сгустившейся тьме вечера. Примечаем иную страну лишь по надписям на чешском языке вдоль обочин трассы.

# В ГОСТЯХ У ЯРОМИРА И ВЕНДЫ

Небольшой чешский Брест, расположенный в старинной осанистой Моравии, встретил нас к полуночи вполне сельской тишиной. Дома в городке по-братски прижимались друг к другу, и, вероятно, во всем этом поселении, насчитывающем тысячу жителей, не спали только местный глава Яромир Навратил и его супруга Венда.

Несмотря на позднее время, ни тени усталости не было на их лицах — только радушие, гамма добрых эмоций. Это невозможно сымитировать, сыграть, изобразить ради какого-то дипломатического политеса. Пожалуй, таков славянский характер, присущий чехам не менее, чем белорусам.

Калачи (пироги) и палевка (горячий густой суп-паста) ожидали нас на столах, что было весьма кстати после долгой дороги. Наш фотокор Ирина Шепелевич была здесь с командою первого этапа поездки по Брестам в прошлом году, навещала семью Яромира и накануне нынешнего путешествия. А сам Навратил приезжал в наш Брест в День города, о чем рассказывает обширная серия снимков в его фотоальбоме. Так что за поздним ужином было о чем вспомнить и поговорить. Заодно наметили планы на следующий день: где побывать, с кем встретиться, что посетить.

Между прочим, тот первый этап акции «Брест объединяет» подружил также мэров чешского и польского городов-тезок, что теперь активно сказывается на их сотрудничестве.

Ночлег в мотеле «Jerry», вблизи которого рекламный щит сообщал о концерте неувядающего Карела Готта, пролетел мигом — и птицы звонко возвестили о начале нового солнечного дня. В мэрии чешского Бреста наш вчерашний гостеприимный хозяин Яромир Навратил уже в статусе мэра ждал команду белорусов для официальной встречи. Здесь, в местном сообществе, Яромир не только управленец и «разруливатель бюджета», но и заводила праздников, их неуемный выдумщик и организатор. Не удивительно, что уже которые выборы подряд народ доверяет ему должность мэра.

Мы вручили мэру подарки и приветствия от Брестского горисполкома и отправились в соседний городок Хулин, в музей имени Франтишка Скопалика, которым заведует жена Яромира Венда. Франтишек Скопалик — фигура культовая для этого региона. В XIX веке он занимался здесь созданием школ и библиотек, агрономией, подъемом культуры — был просветителем и организатором толкового хозяйствования. В музее от зала к залу предстает история края — бережно сохраняемый скарб прежних времен.

В музей прибыл для встречи с нами вице-староста города Хулин Петр Поляк, с которым у нас состоялся содержательный разговор. За кофе с «калачами» дали слово гитаре Тараса Юркевича, а там и радушные хозяева исполнили заводную народную песню а капелла.



*Венда и Яромир*



*Урок истории в музее*

Вернулись в Брест к Яромиру, чтобы выполнить важную миссию нашего визита — поклониться месту упокоения жертв последней здешней битвы Второй мировой войны. Да, 4 мая 1945 года она прошла здесь, вблизи городка, и мемориал на местном кладбище — последнее пристанище чешских солдат армии Людвига Свободы. Мы возложили на мраморные плиты алые гвоздики от нашего Бреста и повязали на памятник ленту с надписью.

А затем нас ждала школа с веселым гомоном голосов — здесь обучается 116 местных детей. Директор Владимир Владимирович провел нас по классам и кабинетам. Он неплохо владеет русским языком и явно не лишен чувства юмора: в директорском кабинете размещен ростовой манекен-шарж, забавно воспроизводящий «начальника» школы. Из всего увиденного в школе, которой более 100 лет, нас особенно впечатлил великолепный, огромный, ультрасовременный спортзал.

Владимир стал нашим проводником в поездке в город Кромержиж — историческую летнюю резиденцию моравских архиепископов. В их дворце теперь расположен роскошный музей, по залам которого повела нас барышня-гид, вручив пояснительные тексты на русском языке.

Удивительной была наша прогулка по дворцовому парку с цветущими магнолиями и сиренью, роскошными клумбами с черными тюльпанами, с павлинами и фазанами, чередою прудов и всею той красотой, которая присуща старинным паркам Европы.

Была еще затем прогулка по Кромержижу, этакой культурной столице Моравии, где снимался знаменитый фильм «Амадей» Милоша Формана. Здесь, в общем-то, для воссоздания Средневековья и последующих веков достаточно убрать уличные дорожные знаки — и включай съемочную камеру.

Навестили кафе «Черный орел» на главной городской площади, испробовали местного пива — как же без этого в броварной Чехии? Но основной ужин ожидал нас у гостеприимного Яромира в Бресте.

С мэром чешского Бреста и местной культурной элитой мы о многом говорили, погружаясь в историю наших городов и контекст нынешних взаимоотношений. Состоялся как бы «обмен верительными грамотами», закрепляющий возможности сотрудничества в культуре, туризме, спорте, экономике. Так или иначе, видится в этом взаимодействии городов-тезок немалый духовный смысл и толк. И несомненно, что с Яромиром Навратилом и его городом наша дружба продолжится в будущем, чешский мэр непременно будет одним из желанных гостей на 1000-летии нашего Бреста.

Чехия Гашека и Чапека очень близка нам по духу, по языку, по мягкости характера. И очень важно сохранять эти корневые связи родства, наводить новые мосты, устранять препятствия в сотрудничестве и взаимодействии. И как раз на уровне «народной дипломатии» это делается проще и естественнее — на уровне сердца. А там, глядишь, и большой политике легче будет подтягиваться к реальному сближению и решению насущных вопросов.

# ЭКСТРИМ НА БАЛАТОНЕ

Бежит наш бус, меняются пейзажи и ландшафты, Ира Шепелевич выхватывает объективом окрестные виды и то и дело нажимает кнопку фотокамеры.

В стороне остается Брно. Миновав его, неприметно въезжаем в Словакию, ничем внешне не отличающуюся от Чехии. Едем через Братиславу — через широко раскинувшийся Дунай. За два с небольшим часа пересекаем Словакию и въезжаем в Венгрию — опять же безо всякого пограничного контроля и досмотра, как в соседнюю область. Водители покупают так называемую «винету» — карту электронной оплаты дорог.

Пейзажи Венгрии впечатляют ровным стандартом красных черепичных крыш, и в какой-то момент нашего пути дали вдруг заполняются гигантскими ветряками-электрогенераторами, придающими окрестностям фантастический оттенок.

Наша цель на нынешний день — озеро Балатон, намеченное нами для стоянки. Озеро — крупнейшее в Венгрии, Мекка для туристов разных стран. Особенно сюда любят ездить почитатели рыбалки.

Здесь мы собираемся заночевать, разбив бивак. Это промежуточный отдых колесам перед завтрашним броском в Сербию — в поисках следующего Бреста, где мы еще не бывали.

Движемся к берегу озера, где выстроились под платанами и акациями «домики кума Тыквы» — множество обителей для туристов. Еще не сезон, отдыхающих



*Немецкий рыболов*

мало. Поначалу планируем сэкономить — взять домик-трейлер и поставить рядом палатки. Выясняем в рецепции стоимость, находим один вариант, другой, в итоге после уместного торга отыскиваем третий — 9 евро с человека за ночлег. И отказываемся от палаток — места в домике, разделенном на комнатушки, хватает всем. Как мы затем убедимся, это решение было самым верным в плане нашей безопасности…

Заселяемся, раскладываем вещи, достаем провизию для приготовления ужина. В домике есть все необходимое: электричество, посуда, столовые приборы. Тарас Юркевич проявляет свои кулинарные таланты, готовит макароны по-флотски. Тушенку мы в Бресте забыли

прихватить, а в Польше, где закупали основные продукты, ее не водится, поэтому Тарас «поженил» с макаронами измельченную копченую курицу. Из свежих овощей вырастает замечательный салат. Ну и прочее извлекается еще из домашних запасов…

Пока всё это готовится, ныряем в Балатон, по берегу которого тут и там расположились с удочками рыбаки. В основном здесь слышим немецкую речь. Пожилая семейная пара австрийцев интересуется, откуда мы, обмениваемся веселыми любезностями.

Ужин готов, стол на веранде накрыт, Тарас раскладывает по тарелкам свой дивный эксклюзив. Вечер опускает на Балатон сети сумерек. За разговорами, обменом впечатлениями от начала путешествия да общим пением под гитару не замечаем, как наплывают тучи. Ирина Шепелевич общается по мобиле с Сербией, куда нам предстоит завтра ехать, делает серию звонков в различные диппредставительства — определяет круг контактов для грядущих встреч.

«Если радость на всех одна, на всех и беда одна…» — поет Тарас, мы ему подпеваем, а рядом по листьям платана начинают шуршать капли дождя. Всё происходит так быстро, что мы и не успеваем сообразить: на Балатон пришла крутая гроза. Тьма накрывает окрестности, стрелы молний рвут небо, ветер переходит в штормовой. И если бы у нас стояла палатка...

Прячемся в домик. И тут вырубается электричество, обрывая нам связи с миром через интернет. Хорошо, что успели определиться с Сербией, где в городе Ниш (возле него располагается наш искомый Брест) нас будет ожидать человек по имени Зоран и поможет нам устроиться на ночлег. Кто он такой, чем занимается и кого представляет — совершенно не знаем. Едем в белый свет, как Колумбы в неизвестность…

## СЕРБСКОЕ КОЛО

Расставшись с Балатоном, берем курс на Сербию.

Вдоль обочин — то заросли акаций, то фруктовые посадки, то травяные пространства с цветущими маками. Снова минуем Дунай, уже во второй раз на маршруте, — всего мы пересечем его трижды в этой поездке. В дороге делаем остановки на заправочных станциях, чтобы выйти через free Wi-Fi на связь и с домом, и с партнерами по путевому марафону.



*С Зораном и Снежаной обсуждаем маршрут*

Сербия не входит в Шенген, но у Беларуси с нею заключено соглашение о безвизовом пересечении границы, так что межу мы проезжаем без задержек и проблем. Паспорта проштампованы — едем дальше. Меняем некоторую сумму евро на динары, чтобы иметь наличность на оплату дорог.

А окрестные виды меняются, отличаясь от венгерских. Сербия, лобастая и вихрастая, вольно раскинула городишки и поселения по склонам холмов. Взгляд цепляется за церкви среди зеленых кущ.

Постоянно выходим на связь с Зораном, который нас ожидает в Нише, и пытаемся угадать, кто он по роду деятельности. Я высказываю версию, что — журналист. И оказываюсь ближе всех к истине. Зоран Михайлович (это фамилия, а не отчество), встретивший нас вечером на подъезде к городу Ниш на своем авто, — типографский работник. Очень доброжелательный, мы сразу же находим общий язык. Он сопровождает нас в центр города, заселяя в хостел близ церкви. Сюда же приезжает жена Зорана — Снежана, она учительница немецкого языка в школе. Супруги поют в хоре «Бранко» храма Святой Троицы, известном далеко за пределами Сербии. Хору — 130 лет. Допоздна общаемся с новыми друзьями, определяем маршрут на завтра — в сербский Брест.

Город Ниш сопоставим по численности населения с нашим Брестом — в нем около 320 тысяч жителей. Но он вдвое древнее, возник еще в античные времена. Отсюда родом один из наиболее известных римских императоров — Константин Великий, сделавший христианство господствующей религией и перенесший столицу империи в 330 году в Византий (Константинополь). Константин почитается православием как святой в лике равноапостольных (Святой Равноапостольный царь Константин). Ниш, третий по численности после Белграда и Нови-Сада, сегодня важный экономический, научный, культурный, религиозный и политический центр Сербии.

Утром направляемся в расположенный поблизости храм Святой Троицы, позвавший колокольным благовестом. Квартет женских голосов возносит молитвенное сербское пение под купол храма, всё это душевно, близко, узнаваемо, родственно. Уже на выходе из церкви остановила нас старушка с очень живым улыбчивым лицом: «Откуда вы?» — «Из Беларуси». — «О, братушки!..»

Далее она по-сербски произнесла целый монолог о вере и любви, а узнав о том, что мы назавтра отправляемся в Македонию, вручила нам 50 динаров и попросила заказать молитву от рабы Божьей сербиянки Милки в церкви в Скопье.

Может быть, эта утренняя служба задала тональность дню — всё происходящее затем стало похоже на чудо. Вместе с Зораном и Снежаной прибыли к нам в сопровождение переводчик Младен Димитриевич, секретарь общества сербско-русской дружбы «Наисус», и сотрудник местного музея Станислав Павлович. Все горят желанием доставить нас в местный Брест, расположенный в 18 км

